# Святліца

## Літаратурны альманах г. Баранавічы

## - 2000 -

Баранавічы
Грамадская арганізацыя
“Творчае згуртаванне “Святліца”

ББК84.(4Беі)
Св24

Святліца : літаратурныальманах. — Баранавічы :
Грамадскаяарганізацыя “Творчае згуртаванне “Святліца” ,
2000.

Творчае згуртаванне “ Святліца”, пад дахам якое сабраліся мясцовыя літаратары, мастакі, ды барды. Нагадаем, што першы нумар альманаха выйшаў у 1997.
Альманах з’яўляецца падсумаваннем усяго лепшага, што напісана беларускамоўнымі аўтарамі нашага горада за 6 папярэдніх год. А яшчэ, яго можна назваць каўчэгам тутэйшага беларускага пісьменства пасярод чужамоўнага патопу. Бо ў ім надрукаваныя як сьпелыя творы самадастатковых аўтараў, гэтак і творы ўсіх тых, каму спатрэбілася значная дапамога рэдактараў. Трэба ж было заахвоціць моладзь да літаратурнай творчасці, а некаму – аддзячыць за саматужны спеў беларускай душы. Альманах – гэта, адначасова і люстэрка часу, і літаратурны помнік аўтарам, і сьвежы імпульс роднай мове. Напісаць і выдаць – плён духу і самарэалізацыя. А боскае пакліканне творцы нязменнае – пяяць хараство і праўду.

ББК84.(4Беі)

*Алесь Бакач*



**Святліца**
**(Вершаказ)**

***Святліца!*** – Лагода і ласка ў гэтым слове!

***Святліца*** – сонечным святлом заліты пакой, дзе ўтульна, святочна і светла на душы любому. Дзе гэты ***любы*** становіцца ***любым.***

***Святліца*** далонямі сценаў, падлогі і столі затуляе ад слаты і сцюжы і ахалоджвае ў спёку.

***Святліца – святніца,*** бо мае святы кут са свечкаю і святымі лікамі ды свае святы.

***Стол*** – яе ***прастол,*** за якім сілкуюцца лустаю хлеба стомленыя целам і наталяюць чытаннем духоўны голад. І тады ***святліца – асветніца,*** што ўсяму вучыць: ад ссівелых Ведаў да найноўшых навукаў.

Гасцям ***святліца – частаўніца, спяўніца.*** Але часам у ёй пачынаюць ***“высвятляць адносіны”*** сілаю, і тады ***святліца – сварніца, свет ніцма.***

Ды ***святліца – суцешніца,*** бо зноў сунімае слёзы і смутак, спачувае і ўкладае спаць.

Уначы ***святліца – санніца.*** Ёй сняцца сны іншасвету. А навокал – светлячкі ды Млечны Шлях.

***Святліца – сватніца, любніца*** закаханым, якія не могуць налюбавацца і нацешыцца адно адным. Яна асвячае сям'ю, люляе немаўлятак, выспельваючы сталасць, хоча, каб ***сям'я*** налічвала ***сем "Я"*** і ў кожнай ***святліцы*** усміхаліся ***"светлые лица".***

Вокнамі вачэй углядаецца яна ў даляглядзы вялікага свету, дзе ўсе мы шукаем ***шчасце, свята, асвету, суцяшэнне, святасць*** – сваю ***святліцу.***

**Жнівень**

Маладзік на золку знік.
Сонца лік, бы залатнік,
Выплыў над лясамі.
Грыбнікі, як ганчакі,
Напрасткі праз хмызнякі
Сыпнулі з кашамі.

Зазвінеў над полем спеў.
Зашасцеў вятроў павеў
Хвалямі па ніве.

Па садах у туманах,
Дзе, як птах, мядовы пах,
Ласуецца Жнівень.

## Мадонна восень

Маэстра Вецер у храме лесу
На дрэў аргане складае п’есу.

І залатая ляціць лістота
Ў праменні Сонца – за нотай нота.

І прыгажосці абрус без кросен
Тчэ малітоўна Мадонна Восень.

## Асенні сад

Вось і зноў асенні вецер
Лісце закружыў,
А здаецца, што на свеце
Я яшчэ не жыў.

Развітальнай прыгажосцю
Сыпле сад з галін.

Абудзіла ў сэрцы штосьці
Полымя рабін.

Ці то радасць, ці то смутак,
Ці то светлы жаль?..
Успамінаў, мараў, думак
Мой асенні баль...

## Мегаполіс

Палымнее начны мегаполіс,
Нібы прысак, вуголлем вакон.
І паветраным змеем паволі
Узляцеў па-над ім Арыён.

Скуль, куды, карагод незлічоны,–
Вокнаў, душаў і зорак мільёны?!

## Трыялеты

* * *

Сонца і маці – святло і любоў –
Выгады і пахвалы не чакаюць!

Проста – сабою нам шлях асвятляюць
Сонца і маці – святло і любоў.
Але жыццё і любоў узнікаюць
Толькі таму, што спакону вякоў
Сонца і маці – святло і любоў–
Выгады і пахвалы не чакаюць!

* * *

Самастойнасць – цяжкая свабода!
Бо пад дрэвам дрэўцу не ўзрасці!
Выбірайма – цень бяз росту, ці –
Самастойнасць! Цяжкая свабода...
Праз вятры да Сонца трэба йсці.
Ў лёсе чалавека і народа
Самастойнасць – цяжкая свабода,
Бо пад дрэвам дрэўцу не ўзрасці!

* * *

Яны, што з вёскі не ўцяклі,
Нас на сваіх плячах трымаюць.
Нам хлеб надзённы здабываюць
Яны, што з вёскі не ўцяклі.
Ад працы не адпачываюць
Атланты роднае зямлі.
Яны, што з вёскі не ўцяклі,
Нас на сваіх плячах трымаюць.

* * *

На жаль, адно свае пакуты
Змаглі ў настаўнікі мы ўзяць.
Нам голас духу не чуваць,
На жаль, адно – свае пакуты.
Прыйшлі мы плоць перамагаць,
Ў якую дух пакуль закуты,
На жаль... Адно свае пакуты
Змаглі ў настаўнікі мы ўзяць.

* * *

Найгоршая бяда –
Духоўная мутацыя!
Не беднасць з радыяцыяй
Найгоршая бяда.
Не зразумее нацыя –
Загіне без сляда:
Найгоршая бяда –
Духоўная мутацыя!

**Наканаванне**

Дом са шкла чалавечага лёсу
Безупынна будуем мы самі...
На шляху да прасторы нябёсаў
Б'юцца душы аб шкло галубамі.

*Святліца*

**Сяляне**

Людзі,
цёмныя,
як зямля,
Чорны хлеб
ядуць з мазаля.

* * *

Сакавік.
Крычаць каты, як малыя дзеці.
А магчыма, гэта дзеці просяцца на свет?

**Гультай**

Гультай сябе заўсёды апраўдае:
Ў яго то свята, то душа баліць,
Збірае сілу ён, а то адпачывае,
Абы яму нічога не рабіць!

**Берасцейскія Каляды**

На ўласнай Плошчы, пабіты снежкамі,

Рукой паказвае на храм Ільіч.
І беларусам крывой усмешкаю
Нібы выгуквае апошні кліч:

– Рыхтуй, спадарства, святочны стол!
Хвала Калядам! Усе – ў касцёл!

**Світальная зорка**

Мы нават у снах – за руку.
Святло ж раздымае абдымкі…
Ўзыйшла на тваім плечуку
Світальная зорка радзімкі.

**Панны**

У густым,
Нібы дым,
Цёмным небе начным
Зіхатнулі шаўкамі зорнымі
Побач з Месяцам маладым
Панны ясныя між сузор'ямі.

Іх, як сцяг,
Па вятрах –
Валасоў Млечны Шлях.

*Святліца*

Ды ад зор не чакай сардэчнасці –
Адбіваецца ў іх вачах
Таямніца халоднай вечнасці.

**Яну Збажыне**

Мы закаханыя ў адну
Аддана, безнадзейна.
Па гэтым свяце і бядзе,
Што б ні было,– радня.
Яе гукаем, як вясну,
Ды на душы завейна,
Бо час ідзе, а шчасце дзе? –
Ты,
    Беларусь,
                адна!

**Сфінксы**

Кажуць, мудрасці носьбіт
Не смяецца, не плача...
Набываючы вопыт,
Мы пачуццямі плацім.

І з усмешкаю сфінксаў
Наўкруга пазіраем,

Сваіх феяў і прынцаў
Любім, ды не кахаем.

Можа з нерушы духу
Дачарпалі дазвання
Да прадоннае скрухі
Самародкі кахання?

**Вечны верш**

Што безвыходней, што яшчэ дурней,
Чым смерць чакаць, гадуючы дзяцей?!
Якія шлях твой пройдуць ад пачатку,
Жыць будуць “для Радзімы і нашчадкаў”,
Нарошчваць сала, піць, хварэць без меры,
Не зразумеўшы ўрэшце ні халеры,
Хадзячым трупам перад абразамі
З нямым здзіўленнем развядуць рукамі:
Што безвыходней, што яшчэ дурней,
Чым смерць чакаць, гадуючы дзяцей?!
Якія...

**Баранавічы**

У горадзе маім
Дамоў кардонкі шэрыя,

Калекі дрэваў, мэрыя,
Чыгункі брэх над ім.
Курыцца пыл і дым
Над котлішчам містэрыі,
Што мы наяве снім.

Тут дзень і лёс – пусты,
А горад – чалавечня нам.
Будзь хоць святым, хоць грэшнікам,
Бамжом ці мэрам ты,–
Паказвае заўжды
Тут з плошчы ідал вернікам
Дарогу ў нікуды.

**Свабода**

*J’ecrir ton nome, Liberte!*
*Pole Eloure*

На сорам, згубіўшы сорам,
На дзіва сляпы да дзіва,
Адным, што жывы, на гора,
Шчаслівы.

Знямоглы нявольнік свету
І згубных ягоных чараў,
Пустых чалавечых мэтаў

Ахвяра;

Аднойчы захочаш бегчы
Ў лясы, ад людзей, у поле,
Дзе дух акрыяе вершам
І воляй;

Калі твой агонь ускрэсне,
Адзінае мецьмеш выйсце:
Згубіцца ў таемным лесе
І болей з яго
Не выйсці.

Відушчым, святым, паэтам, –
Што сон? Што жыццё? – Прыгода!
Бо толькі адна ў іх мэта –
Свабода!

* *(з франц.) Пішу я тваё імя, Свабода!*
*Поль Элуар*



***Аляксей Белы***

* * *

Чаго тут яшчэ, падкажы,
Калі мы ў кахання ў палоне?!
Так хочацца руж на мяжы,
І плешчацца сонца ў далонях.

І радуе спеў салаўя,
І неба бяздонне.
Бо гэта жанчына – ТВАЯ.
І ўчора і сёння.

Такой ты не бачыў красы
Ніколі на свеце,
І лашчыць яе валасы
Натомлены вецер.

Зайздросна, на людзях.
Душа так шчымліва пяе,
І сёння ўсяго нам стае,
А заўтра?
А заўтра ці будзе…

* * *

Прыўстаўшы над Сусветам
На пальчыках, натхнёна,
Яна плыве з букетам.
Жанчына пахне летам,
Гарачам і шалёным.

Што ўзлёт такі высокі –
Ніхто не вінаваты.
І сцелюцца аблокі
Над дрэвамі і хатай.

… Заціхнуць песні ветру
і птушак пералівы.
Жанчына пахне летам,
І ты – шчаслівы!

## *Ірыне*

Колькі зім у нас на вяку,
Што жыццё наша? Так, імгненне…
Месяц люты раскінуў цені,
Ну, а дзень, бы ў красавіку,
Дзень твайго нараджэння.
Будуць птушкі ляцець назад,

Гарады абмінаць і сёлы
Будзе жнівеньскі зарапад
Самым казачным і вясёлым.
… Кожны крок – нібы адкрыццё,
Ўсё губляецца, бы ў тумане.
Застаецца проста жыццё.
І вачэй, быццам зорак, ззянне.

## Карункі лёсу

*Адаму Міцкевічу*

Як ты многа цярпела мая Беларусь,
Да цябе ж адусюль накірункі
Снежань выткаў па полі бялюткі абрус
І раскінуў па дрэвах карункі.

Сніла Свіцязь паходняў атручаны дым,
Сніла шлемаў чужых амальгаму…
Над засценкам Завоссе, над Светам усім
Узыходзіла Зорка Адама.

Бог так многа адмерыў тады аднаму.
Снег курыўся над хатай і тынам,
І на кнізе старой павітуха яму
Перарэзвала пупавіну.

Потым хлопцу прымрояцца слаўныя дні,
Будзе сум па дзяўчыне нясуджанай.
Будзе ў латах Гражына ляцець на кані,
З похваў меч уздымаючы мужна.

І з радзімы ад'ехаць захочацца прэч,
Што паліта крывёю і потам,
З марай, каб і Літва, й Паспалітая Рэч
Не стагналі пад цяжкім прыгнётам…

**Манкуртызацыя**

*Без мовы няма культуры,*
*Без культуры няма нацыі.*

… Так і знікне народ, і згіне,
Хоць працуюць тут адмыслова…
Мы – дыяспара ў роднай краіне,
Дзе цураюцца роднага слова.

Без прычыны – радасць ці гора –
Размятаем гарэлку ў краме,
А на мове сваёй гаворым
З аднадумцамі ды сябрамі.

Тут ніхто ў цябе не спытае,
Ці хапае на хлеб зарплаты.
У аўтобусе скажаш “Вітаю!” –

Ўсе глядзяць быццам бы на вар’ята.

… Думкі круціць, бы човен на стрыжні.
Нешта ў іх ад паганскай замовы…
А скажыце, нашто ў Парыжы
Таварыства французскае мовы?!

* * *

Сівеюць валасы,
Гады самоту гушкаюць.
Паедзем у лясы
Да вераса і птушак.

Натолімся віном,
Абдымем ранкам вецер.
Мы там, дзе светлым сном
І першы дзень, і трэці.

Там рэха нам гукаць
З высокіх веж палаца.
Нікога не чакаць,
Нікуды не спяшацца.

… Ізноў лісток дрыжыць,
І маладым зайдросцім.
Цяпер бы жыць ды жыць…
Шкада, што восень.

* * *

Як цяжка заставацца апантаным,
Учора сонца, сёння дзень туманны.
Жыві, як можаш, даражы падманам,
А восень стукае у шыбу нечакана.
Усё ад лета збыта і забыта,
І час ад кветак і вятроў – дадому,
І пожня – бы разлінаваны сшытак,
З раскіданымі купкамі саломы.
Пара дамоў! Дрыжыць лісток бярозы,
Ёй да вясны гняздо пустое гушкаць.
Пара… Чаму ж тады між вербалозу
Расціўкалася бессамотна птушка?

* * *

Тут народу то “так сабе” жыць, то пячэ.
І разумным абрыдлі прамовы.
Як цудоўна, што ёсць, што жыве тут яшчэ
Мілагучная, шчырая мова.
Не букетам тут прыярытэт, а вянкам.
І даўно зацугляна свабода.
Як цудоўна, што “с местных” глухім тлумакам
Мовай, што беларусы дарылі вякам,
Не дае добры Бог авалодаць!

* * *

Ізноў далягляд за пухнатымі стыне вяргінямі,
І шлях да цяпла, бы масточак праз рэчаньку, вузкі.
І хочацца мора. Лагоднага, цёплага, сіняга.
І шчырага сонца. І музыкі, музыкі, музыкі…
І цьмянага свету, і – каб задыхацца парфумаю,
І – хай безадказнага, хай хоць на вечар, кахання,
І вінаў заморскіх, і палкіх абдымкаў у нумары.
Такіх, ад якіх немагчыма прачнуцца і ўраннні.
А потым захочаш сцюдзенага ветру і волі,
І ветразь, бы бубен напяты, над хваляй прысніцца…
І зноў у Варшаву махнуць хоць на тыдзень, ці болей.
А там недалёка, зусім недалёка да Ніццы…

**Амаль песня**

Бабіна лета. Вада ўжо даўно не люстэрка,
Клёна лісты з шапаценнем кладуцца пад граблі.
З нейкай маленькай-маленькай стракатай паперкі
Вецер зрабіў адмысловы вясёлы караблік.
Мы адплываем. Не з птушкамі, не за ажынай,
Вочы адводзім ад сініх малюсенькіх кветак.
Проста для лёгкага суму настала прычына,

Проста вяртаецца сэрца у бабіна лета.
Проста… Напэўна, не вельмі ўсё легка і проста,
Ты на яго ўжо забылася і адлюбіла.
Бабіна лета, на твой неіснуючы востраў
Лодку кахання разгубленным ветрам прыбіла.
… Як нас чаруюць на ўзгорку застыўшыя сосны,
Ліпы і вязы стаяць, бы у вазах букеты.
Восень раскіне галін безлістотныя кросны,
Тчэ павуцінне самотнае бабіна лета.
Золатам зноў зіхацяць пад лістотай пагоркі.
Восень… Мы прагнем кахання, жальбы і
Сусвету.
І на нябёсах – усе, да адзінае зоркі.
Але не падаюць зоркі у бабіна лета.

* * *

Куды гэта зноў нечакана цябе павяло?
Зноў свет гэты тлумны – бы след на вадзе ад
парома…
Вось так, нечакана абрыдне жыццё і жытло.
Куды ж ты паедзеш? Напэўна паедзеш дадому.
Дзе проста са збана, смакуючы, п’еш сырадой,
Дзе пыл над дарогай і жыта да неба улетку,
Дзе шэрая чапля ўзлятае над сіняй вадой,
Нагамі чапляючы нейкія дзіўныя кветкі.
Там меднягца сосны, і Сонца на захад брыдзе,
І плешчацца рыба аб дно пачарнелае лодкі…

Такога не будзе ніколі ужо, і нідзе,
О, час успамінаў, такі дарагі і салодкі!
Які гэта цуд – зазірнуць (удваіх!) за зеніт,
З каханай правесці бяссонную ноч на аўчынах...
Ізноў лістапад. З тых, што сыпле дажджом леанід…
І верыш, што здольны ты зноў на вар’яцкі учынак!

**History**

Паверым на слова ганцу.
І дзідзе з Пагоняй.
Пакінем шыхты на пляцу
І сядзем на коней.

Насунуўшы шлемы на лоб
На дні, і на тыдні,
Мы будзем ляцець угалоп,
Пакуль не абрыдне.

Даспее ў садах вінаград,
Абсыплюцца грушы.
І наш невялічкі атрад
Праб’ецца праз пушчу.

… І меч, і кальчуга пыліцца,

Ў скляпеннях губляюцца крокі.
Паедзем, князёўна, ў сталіцу.
У Трокі!

**Восень**

Хопіць божкаць, прывыкай патрошку,
Што на арабіне – зноў каралі!
Пожня. І апошнія валошкі.
(Дзякуй Богу, што не зааралі.)

Самалёт мільгне, нібыта знічка.
І пакіне след на небе шэрым.
Адыходзяць кветкі. І кастрычнік
Дорыць людзям самы першы шэрань.

… Пожня, стрэльба, ты ідзеш з уздымам,
Так зачарованы гэтым светам!
Пахне лес прагорклым сінім дымам,
А валошкі ў полі пахнуць летам.

* * *

Ёсць жаданне яшчэ пагуляць маладым
Па дрымучых спляценнях маліны.
Горкі восеньскі пах, горкі восеньскі дым
І салодкія успаміны.

**Паездка ў Лапічы**

Выбірай свой лёс ці вымярай –
Мы з табой даўно ўжо не тыя...
Вочы нашы, быццам шкло, пустыя.
А аблокі – бы дарога ў рай,
Мяккія, лагодныя, густыя.
Больш мы па жыцці не мільгацім!
Хуткасць! І настрой такі высокі,
Выхлапы за следам, бы валокі.
Зноў 160 і мы ляцім
Прама на аблокі!

* * *

Зноў з поўдня вясёлы вяртаецца клін,
Сінеюць зноў вочкі пралесак.
Разблытаем мы павуцінне галін
І выйдзем на ўзлесак.

І будзе жаўрук трапятаць угары,
І песню выводзіць старанна.
І будзем з табою мы больш, чым сябры,
Ды менш, чым каханыя.

* * *

Жыві! І не крыўдуй, і не грашы,
Пад спеў завей, ці спевы салаўя…
"Пакіньце мне аўтограф на душы"…
Не так даўно пра гэта чуў і я.

Не так даўно усход палаў, бы сцяг,
І снілася рамонкавае поле,
І заставалася да небыцця
Гадоў са сто, а можа нават болей.

… Я не крыўдую больш, і не грашу,
І (так нязвыкла!) не чакаю мая.
"Пакіньце мне аўтограф…" – не пішу,
І права, каб падпісвацца, не маю.

**Добры Бор, дом 89**

*Валерыю Ігнаценка*

Вось і ўсё. І стаяць каля крыжа сябры.
Як у нас тут вядзецца спрадвеку.
Засумуе хаціна у Добрым Бары
Аб харошым такім чалавеку.

Заўтра зноў запалае над Шчарай зара,

Але ён туды больш не прыедзе.
Не паспелі прывыкнуць да гаспадара
Ні лясы, ні рака, ні суседзі.

Не паспелі і мы, хоць, здаецца, свае
(Можа, проба ў сяброўства не тая).
Больш ніколі ён песень сваіх не спяе
І элегію не пачытае.

На ўзбярэжжы пары, што падорыць лістам
Чырвань жніўня і колер жытнёвы,
“Хай хоць там будзе добра табе, хай хоць там…”
–
Мы убачым апошнія словы.

**Курортны раман**

А лета ўсё срэбра начэй
Рассыпле па плёсах…
Як лёгка за небам вачэй
Схавацца ад лёсу.
Схаваць за пяшчотаю рук
Самоты бясконцасць
І выйсці павольна на круг
У вечар знаёмстваў.
Для нас саксафон і габой

Пяюць і галосяць.
Давай патанцуем з табой –
Хай нам пазайздросцяць.
Хай з цемры глядзяць у акно
Півоні і ружы.
А нас саладзей, чым віно,
Каханне закружыць.
Нам зоркі, бы свечкі, гасіць
У час развітання.
Дазвольце ж, шаноўная пані,
На танец Вас зноў запрасіць.

**Вяртанне да тэмы**

Дарога. Ноч. Далёкія агні,
Ўсё выбелена месяцам наўкола.
На вейках шэрань. І на цішыні,
І на душы такі адчай і холад!
Адчай цябе і заўтра не міне,
І паслязаўтра, пэўна, лепш не будзе.
І хочацца загінуць на вайне.
Даруйце, людзі.

* * *

Учора… Няўжо гэта ўчора?!.
Здавалася, проста памру…

Каменьчык з Паўночнага мора
На памяць табе падару.

Мы ў гэтых барах – не чужынцы,
Як верас, як смутак рабін...
І ўсё ж ты вазьмі на ўспамін
Каменьчык ад дацкага прынца.

**А можа, лёс такі?..**

“... А, бач, жывуць. І чорт іх не бярэ.
А гэты, бачыш, нават і смяецца...”
А “мінімалка” – трыццаць тысяч “рэ” –
Па яйку ў дзень. На хлеб не застаецца.

Людзей ператварылі ў жабракоў,
Для многіх – чорны хлеб ужо раскоша.
Дзе ўзяць бабульцы (семдзесят гадкоў!)
На ваш паганы спажывецкі кошык?

Жывем. Але без веры, без надзей.
Канае белы дзень пад чорнай сажай...
На яйка ў дзень – ды пасадзіць “вождей”,
Праз месяц можа што сваё засмажаць.

*Снежань 1994г.*

* * *

Зноў салодкай стала цыгарэта,
Прасціна – скамечанай паперай.
Надышла пара вяртацца з лета.
Шчыльна ў лета зачыняю дзверы.

Звянуць і рамонкі і валошкі,
Не ўратуе болей іх адліга.
І, замест жанчыны, ў маім ложку
Зноў ляжыць разгорнутая кніга.

* * *

Што ж тут робіцца, на Беларусі,
Людзі мы, ці ўжо болей не людзі?..
Лепш падацца у “дзікія гусі”,*
Чым сядзець у самоце і брудзе.

Досыць ціскаць азадкамі лаву,
Ды збіраць па аселіцах шчаўе.
Лепш у джунглях знайсці сваю славу,
Ці – бясслаўе.

**“дзікія гусі” – замежны французскі легіён.*

**Правінцыя**

Ўсё тут проста і шчыра,
Усё падаецца “у лоб”,
Надвячорак суботні.
Людзей у аўтобуснай мала.
Прыгажуня ля шкла,
За якім – галерэя асоб.
І амаль што усе там –
Перадавікі крыміналу.

А другая адчайна
Сціскае півоні ў руцэ.
Так зайздросна сумуюць
Яе васільковыя вочы…
Маладую праз плошчу павезлі,
Нібы ў малацэ.
Ці яна дачакалася
Першае шлюбнае ночы?

Тут прыблудны сабака
Да цёплай падлогі прыліп –
Так цудоўна яму –
Ні настырных сяброўак, ні вошай!
Рыжы міліцыянт ледзь паспеў
На напрамак Галік.
Ён малодшы сяржант,
І яму можна ехаць без грошай.

Зрэшты, што там. Нахяй.
У спусцелы аўтобус зайду,
Ці паказваць квіток,
У кіроўцы спытаю ледзь чутна.
“Обязательно!” – скажа. –
“Здесь всё должно быть на виду…”
Вось і ўсё. І з дарогаю зноў
Пачаліся заручыны.

Прымашчуся на крэслах.
На двух, хоць і мулкіх, наўскос,
Хай аўтобус ляціць
Паўз бярэзнік, вясёлы і гонкі.
І засну да Баранавіч –
З раніцы быў сенакос,
А пасля чаркі з тры
(Так выдатна пайшла) самагонкі.

**Такія мы…**

Вып’еш прама з бутэлькі віно,
Да парога правёўшы знаёмых,
І завесіш нарэшце акно.
Сёння – дома!

Сёння будуць шчаслівымі сны,

Бы ў Вялікдзень над плошчаю звоны.
А пакуль з адчуваннем віны
Адстаўляеш фатэль ад сцяны,
Каб дайсці да іконы.

## Горы
***(Эсэ)***

... І толькі праз пэўны час ты заўважаеш, што людзі тут жывуць зусім інакш. Яны нетаропка ходзяць у горы і павольна вяртаюцца назад. А тыя вясёлыя песні і заліхвацкія скокі, якія паказваюць па телебачанню, толькі нязначная, і, напэўна, не самая галоўная частка іх жыцця. Яны вельмі любяць упрыгожваць свой дом звонку. Нават тады, калі не хапае сродкаў, каб нешта зрабіць у сярэдзіне.

Ты тут – чужы. І калі кабета з трыма маленькімі дзецьмі ля падола пытаецца ў цябе, ці не страшна плысці па такой бурлівай рацэ, ты адказваеш, што не страшна, хаця, калі пакласці руку на сэрца, трошачкі страшнавата. Падлеткі расказваюць табе, што недзе ў лесе, праўда, далека, ёсць дзівоснае возера, а ў гарах яшчэ можна сустрэць мядзведзя і водзяцца ваўкі.

Потым ты доўга і цяжка ідзеш напрасткі да вяршыні, а ўзышоўшы на самую макаўку, раптам заўважаеш там сляды каня і чалавека. І ў наступны раз ты крочыш па серпанцінавай сцяжынцы, пратоптанай невядома кім. Але ж з аднаго боку гэтай сцежкі амаль заўсёды – бездань, і ў цябе зноў не вельмі вялікі выбар. А можа ты проста за стары для гэтых гор?..

Ты лезеш усё вышэй і вышэй. Туды, дзе падпіраюць неба таўшчэзныя вязы, дзе і зараз, у траўні, светла шапаціць пад нагамі іх леташняя лістота. І як добра прытуліцца да шматвекавога

дрэва і дабраць згубленую па дарозе энэргію!

Ты ідзеш, і да ног тваіх лашчацца фіялетавыя пралесачкі, якія растуць па дзве-тры на адной сцяблінe. Ім, напэўна, сумна жыць так высока ў адзіноце...

Далёка-далёка ты бачыш УСЕ горы. І прыжмурваеш вочы, калі глядзіш на заснежаныя вяршыні. І успамінаеш, як дзень ці два таму ты быў на адной з іх, самай высокай, і павольна ставіў нагу на такі бялюткі снег, які, калі правальваўся, дасягаў амаль да пояса. Нават сёння, у такі, здаецца, цёплы дзень, калі Сонца хаваецца за хмарку, адтуль цягне холадам, і ты шкадуеш, што не захапіў з сабою пухавік.

Потым ты спускаешся ўніз. Ты праслізгваешся на схілах і доўга ідзеш рэчышчамі ручаін. Раптам ты заўважаеш, што даўно ўжо шыбуеш не ў той бок. Але недзе далёка-далёка гамоніць аб сваім рака, і ты пачынаеш спадзявацца, што ўрэшце рэшт яна падкажа табе напрамак.

І толькі ўнізе, на дарозе, ты адкідваеш убок непатрэбны ўжо кій і хаваеш пад кашулю нож.

**Валадзей Болка**



## Пэндзаль

Мы з Толікам вярталіся з Карпатаў, з Шыпата, месца, дзе збіраюцца ўлетку хіпі, і прыпыніліся ва Львове. Цягнік ішоў толькі наступным днём, і нам трэ было дзесьці пераначаваць.

– Ідзем да Пэндзаля, да Патрыярха,– прапанаваў Толік. – На жаль, у нас няма гарэлкі – адразу ж пашкадаваў ён.

Я не стаў распытваць, хто такі Патрыярх, прадчуваючы, што гэты чалавек вялікай святасцю не вылучаецца. Дый мы на святароў не былі падобныя: абодва няголеныя, абадраныя, як марцовыя каты, у дзіравых джынсах, з заплечнікамі – адным словам, валацугі. У Толіка да таго ж быў ссінелы твар ад тыднёвага запою.

Пэндзаль жыў амаль у цэнтры горада, у

старым, пабудаваным яшчэ ў польскія часы доме. Увесь цэнтар Львова даволі стары, мне нават здалося, што я заблукаў у часе. На Карпатах я быў у атмасферы 60-х.. Зараз даклыпаў яшчэ далей і адчуў сябе жыхаром Rzeczy Pospolitej. У цемры не было відаць ніводнай савецкай адмеціны. Нават на дзвярах у Пэндзаля вісела паштовая скрыня з надпісам Dla listow i gazet. Дый ад імя (ці, дакладней, мянушкі) Pensel павявала Panstwem Polskim.

Дзверы адчыніў двухмятровы граміла. Я спачатку нават не змог акінуць яго вачыма і, уздымаючы позірк з падлогі на столь, выхопліваў з сілуэта каўбойскія боты, джынсы, на якіх было больш латак, чым саміх джынсаў, хіпарскую кашулю і індзейскую куртку. Твар Патрыярха хаваўся за густою барадою і доўгімі, напаўсівымі, валасамі.

– Заходзьце,– буркнуў ён, і мы патэпалі ў кухню, скрозь абвешаную плакатамі рок-выканаўцаў, матацыклаў і выявамі голых жанчынаў. Галерэя пустых бутэлек на стале гаварыла пра яшчэ адно захапленне Пэндзаля. Ён і зараз быў ушчэнт п’яны і з непаразуменнем глядзеў на Толіка, які доўга расказваў пра тое, як мы даехалі.

– Дзе бутэлька? – прыпыніў ён прамову Толіка.

У адказ пачулася мармытанне пра позні час і немажлівасць што-небудзь купіць. Патрыярх зазлаваў і гаркнуў:

– Ідзі спаць, маскаль!

– Я – беларус…– хацеў супярэчыць Толік.

– Ну, а вось, ты, скажам, па радыё пра Шыпат па-беларуску зможаш выступіць?

– Будзе многа памылак,– сказаў Толік і пачаў апраўдвацца, спасылаючыся на расейскае выхаванне і ўмовы жыцця.

– А ў школе ты ж беларускую мову вучыў?

– У школе я, як сын ваеннага, мог мову і не вучыць.

– Мог не вучыць – і не вучыў?..

– Не вучыў…

– Бярыце коўдры ў шафе, ідзіце спаць і не псуйце мне нервы,– пастанавіў Пэндзаль.

– У нас ёсць свае коўдры ў заплечніках,– сказаў я.

Патрыярх утаропіўся ў мяне, здзіўлены, што я зразумеў, што такое “коўдра”.

– Ты што: размаўляеш па-украінску?

– Па-беларуску…Коўдра, яна і ў Беларусі, і ва Ўкраіне, і ў Польшчы – “коўдра”.

– Чуеш, маскаль,– падхапіў Пэндзаль,– бяры сваё “адзеяла” і ідзі спаць.

Я, як паважаны госць, спаў на ложку пад абразамі, што віселі побач з фоткамі голых

жанчынаў, якія шчыра паказвалі, што ім няма чаго саромецца ні Бога, ні чорта, ні чалавека. Толік прымасціўся на палавічку. Яму было не прывыкаць: на гарах ён толькі зрэдку дапаўзаў да палаткі, а звычайна плюхаўся там, дзе напіваўся.

Пад абразамі спалася добра, а вось Толіку сніліся кашмары, быццам ён сядзеў у заапарку ў клетцы пад шыльдаю "Манкурт Беларускі (Блізка не падыходзіць! Гарэлкі не даваць!)"

– Уставай, Беларускі Манкурт! – увайшоў у пакой Патрыярх, які перад гэтым падслухаў расповед Толіка пра ягоны сон. – Умову памятаеш? Дык я напомню: хто начуе ў мяне, той ставіць пляшку гарэлкі.

– Добра, добра,– не стаў супярэчыць Толік. – Адно галодныя мы. Але ў нас макароны ёсць. Можна зварыць?

– Што ты будзеш пэцкацца з імі. У мяне ўчарашні рыс застаўся. Пад'еш "на халяву". Толькі хутчэй.

Пасля таго, як мы паелі, Толік спытаў:

– А вады можна з крана?.. "На халяву..."

– Нельга! Гарэлкі купіш – нап'ешся!

Мімаходам мы зайшлі ў касы і дазналіся, што грошай хапае адно, каб даехаць дахаты. На гарэлку не заставалася. Пэндзаль злаваў, казаў, што можна і аўтастопам даехаць. Толік засеў у

глухую абарону і раскашэльвацца не збіраўся. Пасля чарговага напаміну пра “аўтастоп” Толік прашаптаў:

– Ідзі ты “к чортавай мацеры”!

Патрыярх пачуў гэта, але не раззлаваўся, а амаль ускрыкнуў з радасцю:

– Гэта ідэя!..

І мы пайшлі да маці Патрыярха. Тая дала грошы прамаўляючы:

– Ты хаця не пі, сынку!

Па дарозе Пэндзаль, не прапускаючы позіркам ні адзін матацыкал і аніводную прыгожую жаночую ножку, апраўдваў сваё беспрацоўе:

– Я патрыёт сваёй дзяржавы, а мне прапануюць працу за 15 даляраў, гэта ж дзве гадзіны працы ў Амерыцы. Я – нацыяналіст, я ўсё дзеля радзімы зраблю, я гатовы памерці за Украіну, калі спатрэбіцца. Толькі хай і яна ставіцца да мяне як да чалавека, а не як да быдла.

Я ўспомніў, што ў Беларусі мінімальная зарабатная плата не перавышае пяці даляраў. І ёсць людзі, што жывуць на гэткія грошы.

– А ў вас усё не як у людзей,– гаркнуў Пэндзаль. –Запраглі вас, каб араць вамі, а вы і радыя. Няўжо скінуцца на кілера не можаце?.. А зрэшты, гэта вашыя справы… Зойдзем у “п’яны дом”…

У тым доме прадавалі танную гарэлку. Загрузіўшыся, Пэдзаль павесялеў і ўсю дарогу дамоў дражніў нас:

– Адзін піць буду. Паволі, нетаропка, смакуючы, а вам – шыш пад нос.

Але, калі прыйшлі, наліў тры келіхі:

– Бярыце. Я ж не пачвара, здзеквацца над людзмі такім чынам.

Я адмовіўся, і ён зазначыў:

– Правільна – нам болей будзе,– а потым дадаў:

– Трэба мне кідаць піць. Хопіць ужо. Трыццаць пяць год “працоўнага” стажу – больш чым дастаткова.

Падпіўшы, Пэндзаль пачаў хваліцца сваім гераічным мінулым, паказаў нам нават артыкул пра Львоўскіх байкераў у канадскім часопісе “American Biker”.

Я папрасіў пачытаць, і Пэндзаль вылупіў на мяне вочы:

– Ты ведаеш ангельскую мову? Тады не прападзеш у свеце. А вось ён,– Пэндзаль паказаў на Толіка,– памрэ чужынцам на радзіме. Толькі, спадзяюся, што і беларусы ўспомняць, хто яны такія.

У часопісе пісалася пра тое, што, каб купіць матацыкал, трэба жыць вечна і адкладваць грошы да сканчэння свету. Нядобрым словам

успаміналіся савецкія часы, “родныя” міліцыянты і кэдэбісты.

Пакуль я чытаў артыкул, Патрыярх балбатаў нешта пра ўкраінскае “відродження”, саромеў спевакоў, што співаюць па-украінску, а размаўляюць па-руску, праклінаў “суржык” – гэта нешта накшталт нашай “трасянкі”. І што дзіўнага я заўважыў: ён не сказаў ані адзінага слова супраць рускіх, супраць іх культуры і традыцый. Усе скаргі, здзекі і праклёны сыпаліся на родную краіну і народ. За тое, што прыстасаваліся, саступілі, змянілі свой колер, як хамеліёны. За тое, што, для прыкрыцца, называлі сябе свіннямі, а потым, неспадзявана для саміх сябе,–зарохкалі.

І раптам Пэндзаль падскочыў да Толіка:

– Уставай з канапы. Давай паб’емся па добрай рускай традыцыі.

– Я ж не рускі! – спужаўся Толік.

– Украінцы і беларусы і ёсць самыя сапраўдныя рускія. А гэтыя толькі імя сабе такое ўзялі… Уставай паб’емся!

– Хочаш – бі!..

Мне было смешна і трохі жаласна глядзець на двух ужо немаладых людзей. Абодвум за сорак, разведзеныя, у кожнага недзе па сыну. Шукалі чагосьці ў гэтым жыцці і, не знайшоўшы, залезлі ў бутэльку. Сябры няведама колькі год, а

збіраюцца біцца: Пэндзаль, “прафесійны” грузчык і яшчэ не страцціў сваёй моцы, выклікаў на бойку ссохлага мастака Толіка. Той хоць у гэты час і казаў пра пацыфізм і “біблейскія шчокі”, а ўсё ж сціскаў рукі ў кулакі. Напружанне расло, а раздымаць іх мне не хацелася – свае зубы даражэйшыя.

Усё абышлося – Пэндзаль дзіка зарагатаў:

– Думаў, што я цябе стукну? Пажартаваў я. Першы нікога ніколі біць не буду. Але калі што, шчокі падстаўляць не збіраюся.

Пэндзаль плюхнуўся ў сваё любімае крэсла і больш не падымаўся і нічога не казаў. Толькі, калі нам трэба было ісці да цягніка, ён на развітанне Толіку кіўнуў галавой, а мне прамовіў:

– Трымайся…
– Гэта слова было заклікам да мяне. “Не саступай!” – хацеў сказаць Пэндзаль. І ў той жа час гэта слова падказвала, чаго і каго мне трэба трымацца, а чаму і каму не саступаць.

Вярталіся да трамвая кароткім шляхам і таму крыху заблудзілі. Запытаўшы па-руску дарогу да цэнтра ў нейкай жанчыны, у яе вачах сустэлі непаразуменне, нянавісць і з’едлівую ўсмешку.

– Не розумію російською мовою,– кінула яна нам і горда пракрочыла міма.

Мы для яе былі маскалямі, не вартымі ўвагі.

Мы былі напамінам савецкіх часоў, адмецін якіх я не заўважыў ва Львове і ў дзень: усё было новае, украінскае, ці старое, яшчэ за польскіх часоў, а ўсё ж украінскае. І здавалася, што украінцы за 50 год
савецкай улады толькі і рабілі, што трымаліся.

– Трымайся і ты! – паўтараў я сабе ў цягніку. А маё блуканне па часе працягвалася… Я ехаў у краіну, дзе час стаіць на месцы.

## Янка

*Казалі мне, што я страшэнны*
*нацыянальны пень...*
*В. Шалкевіч*

У характарыстыцы Янкі было запісана, што ён сацыяльна-небяспечны нацыянальны шавініст, вёў антыдзяржаўную прапаганду, у культурна-масавым жыцці калектыва ўддзелу не браў...” Вось такімі якасцямі валодаў пяцігадовы хлопец Янка. А ўсё пачалося з таго, што не мог ён вымавіць цвёрды гук “л”. І аднойчы выхавацелі ў ціхую гадзіну вырашылі яго перавучыць.

– Скажы “экалогія”,– дапякала выхавацелька.

– Экалёгія,– чулася ў адказ.

– Хоць кол на галаве чашы! Што з табой рабіць?

– А нічога не рабіце,– адкаваў Янка. – Прырода патрабуе: не магу вымавіць і ўсё тут.

– Во, разумнік знайшоўся. Хто ж цябе так размаўляць навучыў?

– Я ж кажу: ад прыроды ўсё.

– Усе дзеці як дзеці: з цацкамі гуляюць. А гэты – у вугал заб'ецца і ўсё кнігі і газеты чытае... Можа ты яшчэ на камп'ютары займаешся?

– І на кампутары... і кнігі і газэты чытаю! – ганарліва адказваў Янка.

– Ты што? Перадражніваеш?! Адказвай!.. Маўчыш! А што за мітынг ты сабраў сёння ў туалеце? Да чаго падбухторваў? Што вырашалі?

Янка адно махнуў рукой:

– Ды несьвядомыя яны, палітычна нягравматныя. Сацыял- ад нацыянал-дэмакратаў адрозніць не могуць. Зь імі рэвалюцыі не зробіш.

– Слухай, Ленін, каб я больш не чула тваёй прапаганды! І дэсерту на полудзень ты не атрымаеш.

– Вы не маеце на тое права! – запратэставаў Янка.

– Маю! – Адрэзала выхавацелька. – Ідзі з маіх вачэй.

У адказ Янка пабег у спальны пакой і пачаў крычаць ва ўвесь голас:

– Падымайцеся ўсе! Слухайце! Грубае парушэньне правоў дзіцяці! Дзетсад ператвараецца ў прытулак таталітарызму! Аб’явім ноту пратэсту адміністацыйнай кагорце! Патрабую выдачы марозіва і павялічэньня яго порцыі! Падтрымайце абвяшчэньне Незалежнае Дзіцячае Рэспублікі!

Але бунту не атрымалася. Педагогі разагналі дзяцей па ложках. Падбухторшчыка схапілі, і кіраўніцтва прыняло рашэнне аб выключэнні Янкі з дзіцячага саду і “дэпартацыі” яго да бацькоў.

Янка не бедаваў, а толькі падазрона ўсміхаўся, маўляў хутка ў школу...

## Фабрыка

Гэтыя вырадкі ўсё ж такі знайшлі мяне! Гэта тое, чаго я так баяўся ўвесь час. “Паспрабуйце дастаць!” – думаў я. Ды не. Гэтай зграі трэба, каб сам прыйшоў, пакланіўся і паскакаў на задніх лапках. А што я зраблю? Адмоўлюся – дык знойдуць усё роўна, і лепш не думаць пра тое, што будзе пасля. Вось я і стаю ў калідоры змрочнага будынку, трымаючы іхні выклік – штампаваны бланк, куды ўпісана маё імя. Такіх, як я,– да халеры, і гэта не суцяшае. Тут

сапраўдная фабрыка, дзе робяць з людзей бессардэчных, бяздушных, вар'яцкіх жывёлін.

Заходжу ў заканурак, дзе мне загадваюць зняць адзенне. У адных трусах крочу з пакою ў пакой. Нейкая немаладая карга мацае маё цела слізкімі халоднымі рукамі, потым хтосьці глядзіць у рот, у вушы… Паказваюць бессэнсоўныя малюнкі, пытаючы, што я ў іх бачу; звар'яцелы мужык б'е малатком па целе; затым ідзе тэст на веданне літар… Маладая жанчына бессаромна залазіць мне ў трусы, мацаючы тое, што я нават сабе не дазваляю абмацаць, і з задавальненнем кажа: "Добра!" Канечне ж, там у мяне ўсё добра.
Галава ідзе кругам…Нарэшце, я ў больш светлым пакойчыку, і нейкі мужык, што дагэтуль доўга драпаў нешта ў паперах, гаўкліва выносіць прысуд:

– З'явіцца праз два тыдні. Ты ў войску, хлапец!

## Сабачы дарвінізм

Бяздомны сабака бег міма камерцыйных крамаў і кавярняў і думаў пра сваё "сабачае" жыццё. Дзень выдаўся непагодны – з рання церусіў дробны дождж. Мокрая поўсць псіны

звісала, і гэта яшчэ больш падкрэслівала плешыну на спіне.

Ён прыпыніўся каля дзвярэй адной са сталовак і паччаў прынюхвацца. Але нейкі мужык закрычаў на яго:

– Пшоў прэч!

І сабака пабег далей.

“Падумаеш: вялікае гора – прагналі, – разважаў ён. – Добра, што не шпурнулі камянем ці калом. Ва ўсім трэба бачыць добрыя бакі, не апускаць лапы, а не тое – загінеш у гэтым свеце. Закон выжывання – гэта вам не хіханькі-хаханькі.”

Пра тэорыю Дарвіна сабака ўпершыню пачуў ад свайго былога гаспадара, калі той перавозіў яго на электрычцы ў другі горад, каб пакінуць там.

– Цяжка нам жыць,– казаў тады гаспадар. – Жонка лаецца… У яе алергія на цябе… Выжывае мацнейшы – так яшчэ Дарвін казаў. Але хіба ты гэта зразумееш?

Калі тады б да сабакі дайшлі аспекты дарвінізму, то ён абавязкова накінуўся на гаспадара і перагрыз яму горла. Але, як вядома, усялякая тэорыя павінна пацвярджацца практыкай. А яна спраўдзілася ў гадах валацужніцтва па памыйніцах і сметніках. Як аказалася, гэта была не выдумка гаспадара,–

тэорыя дзейнічала. І ў сабачых мазгах яна атрымала простую фармулёўку: “Урві, дзе зможаш, а не тое – здохнеш!”

Адзіная думка, што панавала ў сабачай галаве, была: “Дзе б урваць?” У такое надвор’е не надта што знойдзеш. І тут ёе убачыў пад навесам маленькую дзяўчынку, якая ела булку.

“Як бы ўрваць?” – аблізнуўся сабака.

У гэты момант яго заўважыла дзяўчынка.

– Цюцік, цюцік, на… вазьмі! – працягвала яна булку. Сабака пачаў недаверліва падыходзіць бліжэй, але калі зразумеў, што малое дзіця не ўяўляе аніякай пагрозы, схапіў булку і стаў прагна жэрці.

– Бедненькі ты, прамок увесь,– са спачуваннем гладзіла дзяўчынка аблезлую поўсць.

“Што гэта з ёй? Гэта ж неразумна, нелагічна! Яна не ведае законаў сусвету! Гэта ж тэорыя Дарвіна пад пагрозай!”

Даеўшы булку, саба.ка забрахаў на малую, а тая, спужаўшыся, закрычала і пабегла. Цюцік весела паімчаўся за ёй, заліваючыся па-свойму, па-сабачы, пра тое, што выжывае мацнейшы і што не варта спачуваць слабым і бездапаможным.

## Псярня

– Цяў-цяў-цяў! – скавытаў старшыня.
– Гаў-гаў-гаў! – падбрэхвалі яму міністры.
– У-у-у-у! – падвывалі дэпутаты.
– Гр-р-р-р!.. – ашчэрыў зубы прэзідэнт.
І ўсе падкурчылі хвасты.

## Форум

*Удзельнікам форумаў і семінараў*
*недзяржаўных грамадскіх*
*аб’яднанняў прысвячаецца.*

Сябар Язэпа вырашыў разыграць яго і запісаў на паседжанне кіналагічнага форума. “Ну, добра, завітаю,” – падумаў Язэп,– “кіно я люблю. Чаму б і не паслухаць разумных людзей?”

Прыйшоў ён на гэты сход, і адразу ж да яго падскочыў малады хлапец з прывітаннем:

– Дзень добры. Вы адкуль?

– Тутэйшы.

– Ад якой вы арганізацыі? – не адставаў хлапец.

– Я – аматар,– адказаў Язэп.

– Тады запоўніце анкету.

“Шчэ якіясь анкеты запаўняць,” – прабурчаў Язэп і стаў крэмзаць у паперы, якую яму

падсунулі.

“Імя,.. прозвішча,.. на якіх выставах выстаўляліся,.. узнагароды…”

“Лухта нейкая,” – падумаў Язэп і ва ўсіх калонках паставіў працяжнікі.

Адразу ж пасля гэтага на свэтар Язэпа прычапілі картку ўдзельніка форума і запрасілі на паседжанне.

Першым выступаў нейкі дзед, так званы прадстаўнік з цэнтру, вядомы кінолаг.

Першая думка, што прыйшла ў галаву Язэпа,– “Нешта ён не тое кажа. Няўжо ў кіно няма іншых праблем, акрамя таго, як здымаць сабак?” І толькі пасля гадзіны пустых выступленняў ён дакеміў, што апынуўся на звычайным сходзе сабакаводаў. “Ну, гэта мне бліжэй,” – разважаў Язэп. – “Як-ніяк Бобіка трымаю.” Бобік – чыстапародны дварняк, ці проста Dvora Uroda, як сказаў навуковаю моваю нейкі прафесар на кірмашы, што прадаў сабаку Язэпу.

А сход працягваўся, гучалі заклікі кшталту: “Кінолагі Сусвету – яднайцеся!”, “Сабака – лепшы сябра чалавека!”, “Сабакаводства – найважнейшая праблема дзяржавы і прэзідэнта!” Выступаў пан Псароў, распавядаў пра праблему каардынацыі кіналагічных таварыстваў, пра барацьбу супраць новых “цюцікаводных”

арганізацыяў, якія грэбуюць традыцыямі і не вядуць радаводаў.

Язэп ледзь вытрываў гэтыя шматслоўныя прамовы і ўжо быў гатовы ўцячы, як акурат аб’явілі перапынак. Разам з натоўпам ён рушыў да дзвярэй і ўжо быў гатовы прабіцца да выхаду, але натоўп упіхнуў яго ў другі пакой.

“Гэта што такое творыцца?! Гэта чорт ведае што!” – ледзь не закрычаў ён, бо шчыльныя рады “кіношнікаў” заблакіравалі дзверы. Язэп агледзеўся і ўбачыў, што апынуўся ў сталоўцы.

– Бярыце каву! – нехта прапанаваў яму.

– Дзякуй. А колькі каштуе?

– Нікольки. Усё аплочана.

“Ды тут нейкі сабачы рай,” – думаў Язэп, дапіваючы сёмы кубак кавы, праглынаючы бясплатнае пячэнне і “халяўныя” цукеркі.

Тут нехта пусціў чутку, што будзе яшчэ абед і вячэра, і Язэп вырашыў застацца. Зайшоў у пакой паседжання , прылёг на стол і прыкархнуў. Прачнуўся ён ад таго, што нехта штурхаў яго ў бок.

– Раскажы пра сябе. Якую арганізацыю прадстаўляеш?

Язэп крыху спужаўся і як вынік стаў несці ўсякую лухту:

– Я прадстаўляю Незалежную Партыю Кінолагаў у межах нашай краіны і закону. Мэты

нашае партыі – пошук найбольш рэдкіх і перспектыўных парод сабак, арганізацыя выставаў і правядзенне конкурсаў. Таксама мы змагаемся за адраджэнне чысціні крыві. Зараз мы мы працуем над выданнем поўнай энцыклапедыі гісторыі кіналагічнага руху.

Язэпа панясло, ён ужо не мог закрыць рот і сваёй прамоваю прымусіў разявіць зяпы ўсіх астатніх. Але праз дваццаць хвілін у яго пачаў балець язык. Трэба было закругляцца і, Язэп скончыў свой выступ лозунгамі:

– Усе на выбары! Падтрымайце Незалежную Партыю Кінолагаў! Жыве сабакаводства!

Пасля такога бліскучага дакладу да Язэпа пасыпаліся прапановы па стварэнні раённых філіяў партыі.

Але ён адрэзаў:

– Усе прапановы – па кантактным тэлефоне партыі.

І Язэп назваў нумар таго сябра, што прапанаваў прысці на гэты форум.

Апусціўшыся на сваё месца, ён тутжа заснуў.

Праз колькі часу яго пабудзілі на абед. З’еўшы падвойную порцыю, Язэп зноў прылёг у чаканні вячэры.

“На жаль, форум не доўжыцца з месяц,” – праслізнула ў галаве думка перад тым, як ён заснуў салодкім сном. Праз сон чуліся

палымяныя прамовы, заклікі, спрэчкі, і гэта перашкаджала адпачываць.

Язэп прачнуўся ў той момант, калі пан Псароў сказаў: “Хто за – падыміце рукі. Супраць? Устрымаўся? Адзінагалосна.”

Усе рушылі ў сталоўку на святочную вячэру, дзе шампанскае, гарэлка і піва ліліся ракой.

Ужо вяртаючыся да хаты ў значным падпіцці, Язэп зірнуў на тумбу з аб’явамі… “Заўтра шахматны форум,” – прамільгнула ў ягонай галаве. – “Завітаю, можа арганізую якуюсь партыю.”

## Звычайны Кромпель

Да Міхала аднаго дня пастукалі ў дзверы. На парозе стаяў звычайны Кромпель. Так, зрэшты, падумаў Міхал, не ведаючы, хто такія Кромпелі і чаму гэты быў звычайным.

– Ну, Кромпель дык Кромпель. – зазначыла істота. – Я зайду?.. Ты не супраць?..

Міхал вагаўся: у той дзень ён піў. А хто схоча дзяліцца тым, чаго ледзь для сябе хапае? Але ўсё ж такі дазволіў Кромпелю ўвайсці.

Трэба зазначыць, што Кромпель быў зусім не тое каб чалавекам. У яго было нешта надта багата пальцаў, розныя па колеры і памеру вочы,

доўгія валасы і нават хвост. Галава была вялікая і, як падалося Міхалу, разумная.

Кромпель доўга хадзіў па хатніх пакоях і разглядаў палотны карцінаў. Міхал быў мастаком і даволі таленавітым, як прызнавалі некаторыя заказчыкі. Ён маляваў пейзажыкі на продаж... Розныя там бярозкі і рачулкі. Сабе Міхал браўся маляваць нешта любамудраснае. Ён бы гандляваў і гэтымі карцінамі (піць жа за нешта трэба), але абстракцыянізму і сімвалізму ніхто не хацеў купляць. Заказчыкі тлумачылі, што раней людзі бралі тое, у чым яны нічога не разумелі, каб паказаць, што ўсё ж штосьці разумеюць. Зараз жа нікому не сорамна паказваць сваё неразуменне. І з-за гэтага меркаванне, што мастак займаецца "псеўдаінтэлектуальным вычварэнствам", навязваецца тым, хто спрабуе разабрацца. Вось такія творы нікому не патрэбны.

Кромпель разглядаў карціны і на ўсё казаў: "Прыгожа". За гэтае слова Міхал быў бы гатовы забіць чалавека, бо гэтае "прыгожа" часцяком прыходзілася чуць, калі ў яго куплялі карціны. Але перад ім стаяў не чалавек, а Кромпель, і, па-другое, ніхто яшчэ дагэтуль не казаў, што яго абстракцыяніс цкія карціны "прыгожыя".

"Трэба быць філосафам,– падумаў Міхал,– каб знайсці тут прыгажосць."

– А я і ёсць філосаф,– выхваляючыся, адказаў Кромпель.

Тым вечарам яны доўга размаўлялі пра сэнс жыцця, памкненні, вечнасць і хто іх ведае пра што яшчэ. А ўжо вельмі позна Міхал пажадаў намаляваць Кромпеля. Але рукі ў мастака ўжо дрыжэлі ад выпітай гарэлкі – і Кромпель паабяцаў, што прыйдзе другім разам.

Ён прыйшоў наступным днём. Міхал зноў нешта цадзіў скрозь зубы. У гэты дзень мастак зрабіў толькі некалькі накідаў.

Праца ішла марудна. Кожны дзень, пакуль яшчэ не напіўся, пакуль рукі не дрыжэлі, Міхал маляваў... Партрэт абяцаў быць лепшым творам у жыцці мастака. І аднойчы ён сказаў Кромпелю:

– Заўтра я скончу твой партрэт.

– Значыць, я прыйду ў апошні раз,– зазначыў Кромпель з сумам.

Міхал адчуваў тое ж... Яны паспелі пасябраваць за гэты час. Колькі ў іх было размоў... І на такія тэмы, што мабыць ў гэткую філасофію ніхто нават не паглыбляўся. І раптам: “Прыйду ў апошні раз”. Міхал разумеў, што так трэба. Значыць, так і будзе...

Наступным днём Міхал паказваў партрэт. Кромпелю ён не спадабаўся:

– Гэта не я! Гэта не магу быць я! Ты намаляваў самого сябе!..

І хаця галава, валасы, вочы і, галоўнае, хвост былі падобныя да Кромпелевых – той усё стаяў на сваім. Пасварыўшыся з Міхалам, Кромпель пайшоў і больш ніколі не вяртаўся.

А карціну “Звычайны Кромпель” адразу ж, як убачыў, пажадаў купіць заказчык летніх пейзажыкаў.

– Як прыгожа! Адразу ж зразумела, што тут намаляваны Звычайны Кромпель,– зазначыў ён.

– Ды што ты разумееш у Кромпелях?! – зазлаваў Міхал.

– Анічога... Толькі гледзячы на карціну, я магу уявіць, якімі яны бываюць... Простымі, добразычлівымі і крыху вычварнымі...

Міхал не прадаў карціну, бо захацеў яе перарабіць. Але не змог... Бо, як сказаў Кромпель, Міхал намаляваў самога сябе. А перарабіць сябе ў Кромпеля, няхай сабе і самага звычайнага, амаль немагчыма.

## Вялікі Данда

Ужо калі стала немажліва трываць здзекі Вялікага Данды, людзі зрабілі тое, што заўсёды рабілі ў такіх выпадках: прыйшлі на пляц перад палацам Вялікіх і моўчкі сталі, узіраючыся ў вачніцы будыніны.

“Прыйшоў час выбіраць наступнага Вялікага,” – думалі ўсе, чакаючы, калі Данда выйдзе і аддасць Меч Валадарства. Але Ён не з’яўляўся.

Народ падыходзіў, строіўся ў шарэнгі і моўчкі ўзіраўся ў палац. Але ў гэты дзень ніхто не выйшаў, і натоўп падумаў: “Магчыма ёсць прычыны, па якіх нам трэба пакінуць Данду Вялікім?.. А ці не пайсці нам адсюль і болей не вяртацца?”

Але назаўтра набрыло яшчэ больш народу – здавалася, што сабраўся ўвесь край. Данда не выйшаў і ў гэты дзень.

“Прычыны, па якіх Дандзе трэба застацца Валадаром,– падумалі ўсе,– яшчэ больш змястоўныя, чым можна ўявіць. А ці ўсё ж не кінуць нам гэтую справу?..”

І многія вырашылі не ісці наступным днём да палаца. Але некаторыя ўсё ж з’явіліся. Насустрач ім выйшаў Вялікі Данда, трымаючы ў руках Меч Валадарства. За Вялікім ішлі ягоныя служкі, падтэкі і войнікі са зброяй. Падняўшы Меч угору, Данда прамовіў:

– Я застаюся Вялікім… І ў мяне, канешне ж, знойдзецца на гэта прычына.

А потым насмешліва дадаў:

– А ці не пайсці вам адсюль?..

“А можа ўсё ж не пайсці?..” – засумняваліся людзі, але ўсё-ткі пайшлі дадому.

## Жэрлюк

Ідучы ў святы горад Карум, я адно толькі і думаў, як бы не сустрэць вялікага і вычварнага Жэрлюка. Бо хто я такі перад Жэрлюкам?... А ніхто! – Звычайны гандляр снамі. Цьмянымі, шэрымі, але добрымі снамі. Ды ён жа мяне ў адразу “хрум” – і мала падасца, бо ненажэрны ён, вялікі і вычварны.

А тут яшчэ неўпапад-няўлад перад самымі сценамі горада старцы ідуць – бароды па зямлі сцелюцца, ззяюць мудрасцю плешыны. Падышлі, паклон адвесілі і кажуць:

– Жэрлюк даўненька чакае цябе,– а потым з падвохам: – Як табе гэта вестка?..

– Благая вестка...

– А то добрая?!.– хіхікнулі старцы. – Ён жа цябе “хрум”...

Злавацца не стаў, а за навіны старцам толькі падзякаваў і пустых сноў падараваў – хай шукаюць сэнс у пустэчы. Толькі яны на гэта здольныя.

Мне на базары трэ было сноў прыкупіць. Падыйшоў – і сапраўды на базарнай плошчы стаіць, узіраецца, чакае мяне Жэрлюк.

Я ціхенька да яго ззаду падкраўся паслухаць, што за ла-ла-ла ды бу-бу-бу ён пад нос сабе шапоча. Стаю, услухоўваюся, як ён адно і тое ж

лапоча:

– А дзе ж гэты снапрадавец?.. Дзе ж гэты гандляр?..

– Ту-у-ут!!! – закрычаў я, бо не мог трываць ягоны малебенны енк.

Жэрлюк азірнуўся – і раптам бухнуўся на калені, пачаў прасіць:

– Можа прадасі мне сноў?.. Вялікіх… І вычварных…

– І крыважэрных? – спытаў я.

– І крыважэрных… Такіх як я, жудасны Жэрлюк…

Замест адказу я пабег па вуліцы з горада, весела скачучы па лужынам.

– Не прадам!.. – смяяўся я.

Жэрлюк бег за мной і то маліў прадаць сноў, то пагражаў смерцю.

– Няма ў мяне вялікіх, вычварных і крыважэрных!!! – крычаў я.– Толькі добрыя!.. Хоць крыху цьмяныя, але добрыя!..

– Заб'ю!.. Заб'ю!..– лямантаваў Жэрлюк.

– Не заб'еш! – смяяўся я ў адказ.– Гэта ж мой… мой сон. А ў сваім сне я змагу пастаяць за сябе…

## Непаразуменне

Асфальт ашчэрыўся польскім брукам.
Пад брукам прыціх стары тракт.
Дзякуючы тракту на гэтым месцы ўзнік горад.
Але горад не дзякуе, ён бурчыць, што асфальт ашчэрыўся польскім брукам.

## А што далей?

… І што далей? Што рабіць, калі лісты з адказамі адасланыя, калі дзеткі накормленыя, хата прыбраная, калі ўсё параблена?

Няўжо трэба будаваць яшчэ адну хату, садзіць больш дрэваў, нараджаць яшчэ і яшчэ дзетак?

Нашто?.. Бо гэтак трэба, таму што гэтак трэба? А што далей?..

Не ведаючы адказу на пытанні, я бяруся гатаваць дзецям вячэру. А потым буду чакаць новых лістоў і думаць, што нехта прыдзе і нанясе ў хату бруду… Галоўнае, каб знайшлася хоць якая справа – трэба ж хоць нешта рабіць, каб было апраўданне, чаму не змог нават узяцца за штосьці значнае ў сваім жыцці. Дый за што брацца?.. Што далей?..

**Мікола Бусько**



**Веснавей**

Там, пад зрывістай стромай,
Між кустоў маладых
Днём варочаўся Нёман,
Уздымаючы льды.

Як асілак, на спіну
Льдзіны склаў,
А ўначы
Разбіваў іх няспынна
Ў далячынь несучы.

– Глянь:  зіма хапатліва
Гоніць крыгі-плыты.
Быццам конскія грывы –
Над вадой чараты.

Як сябрук, мне на плечы
Сонца руку кладзе
І ты ўжо халадэчы

Не сустрэнеш нідзе.

А тут, дома, ля хаты,
Як шчанюк, на траве,
Гурбы снегу заўзята
        Золкі вецер ірве.

* * *

Бераг. Будан паляўнічага.
Тут пад наглядам планід
Качкі нырцуюць за знічкамі –
Страўніка моцны магніт.

Сцежку латунную месяца
Вечар праклаў на вадзе.
Хвалі абцасамі месяцца –
Вунь паляўнічы брыдзе.

Пенным туманам, бы соладам
Ночка ахутала плёс.
З сябрам – ніколі не холадна –
Грэе спагадлівы лёс.

Травы ад росаў зіхоткія:
Пацеркі летняй пары.
Тут заўсягды гэтак хочацца

Цішы сябе падарыць.

Лёцьма нясецца над Шчараю
“Вух-вух” самотнай савы.
Круціць вачамі бы фарамі –
Мае агляд кругавы.

Дзе валасамі-кудзеляю
Засціць русалка прасцяг,
Качкі з чыркамі там дзеляцца
Радасцю светлай быцця.

Поўня выразна мне бачыцца –
Цень цераз фортку пранік.
Там, над вадою, пазначыцца
Раніцы добрай каснік.

**Здарэнне**

Чую ў лёхах лесу
Злых дзікоў “хруп-хруп”...
Там далікатэсам
Іх частуе дуб.

Смеласць хутка чэзне –

Лезу па суках.
З рохканнем гарэзным
Мой змяшаўся страх.

І з вяршыні лёцьма
Капае на дол
Восеньская процьма
Спелых жалудоў.

А лясную спожыць,
Што дуб напладзіў,
Лета перамножыць
На звярыны здзіў.

Паглядзі: старанна,
Ды ўжо не крадком,
Лес апрацаваны
Першым халадком.

## На золку

Смугой абвіты далячыні –
Свет навакольны шчэ драмаў.
І толькі дрэў сівых вяршыні
Не пахаваліся ў туман.

Дзень атрымаецца прыгожы!

*Святліца*

Да заклапочаных сялян,
Світанак росны, пераможна
Святло надзеі пасылай!

Хоць і не ўся растала цемень,
А ў прыбярэжных чаратах
Мне рыфмаў свецяцца адценні
І сэрца спевам цешыць птах.

Світальны час я прывячаю!
Ён над радзімай паўстае.
Такой парой зямля звычайна
Пра справы думае свае.

Мяне заўсёды на работу
Праводзіць ранак малады…
Адно аб будучым турботы
Я пры сабе нашу заўжды.

## Сузор'е Шаляў

На ўлік не ставяць недавер,
Не размываюць
Браму тлуму,
Я стосу вусцішных папер
Даверыў

Сталыя задумы.

А свет зняверыўся?
Чаму?
Як бы і слова
Не ў загоне.
Злых беспарадкаў
Каламуць
Яшчэ дагэтуль не разгонім.

Нас век падвёў?
А мо іспыт?..
Зашмат пытальнікаў калючых.
Наш паспаліта-крэўны быт
Калі адвучымся
        Не мучыць?

Адкрыйся мне,
О, Нёман мой!
Айчынным рэкам родны бацька!
Жывуць ідэі ўразнабой –
І гэта небу
Добра бачна.

Вунь Млечны Шлях
Запалавеў:
Стагоддзяў прысак,
Шлак,

Руіны…
Стаю, і чуецца павеў
Часоў Вялікага Скарыны.

Сузор'е Шаляў прасачу:
Суладдзе стрэлак,
Ход талковы.
Вісіць Сусвет,
А рыфмачу
Звіняць аб тайнах дзеясловы.

І неба зорамі звініць.
Псалтыр раскрыў
Апостал Павел…
Той,
Евангельскай чысціні
Так нашым душам
Не хапае.

Празорцу нават і няўцям,
Што лёс Зямлі – апека Шаляў.
Мкне розум іншапланецян
У нашы клопаты
Ўмяшацца.

**Розгалас конніцы**
**Кастуся Каліноускага**

1
Я свой аповед распавёў
Пра час, што спадчынай завём.

З яе нязнаных далячынь
І мой трыпціх бярэ зачын.

Далоні клініста згарну
І ў бездань вечнасці нырну.

Перад вачмі Кастусь узнік –
Зямлі і волі вартаўнік.

Дзе боль, пакуты, здзек, прыгон,
З мячом расплаты ўзняўся ён.

Яднаў наймітаў долі герб
І скабы рваў змагання сверб.

"Мужыцкай праўды" слова-біч
Пазнаўураднік і паніч:

"Схаваны лёс ваш, дзяцюкі,
На дне змагарскае ракі.

Папы, чынушы, маскалі
Нас, быццам чэрці, падвялі.

Ды за зямлю каторы раз
Цар прыдушыў паборам нас.

А ліберал табе, мужык,
Прышыў "чырвонага" ярлык.

Прачніся, люд! Прыйшлі часы
Нажа, сякеры і касы.

Нацешся, піка і кап'ё –
Наскрозь праткні ярмо сваё".

Царысцкай моцы карані
Змяяцца. Божа барані!

2

Чую за ваколіцай
Ветру нудны плач.
І паўстанцкай конніцы
Гістарычны скач.

Зараўла над пушчаю
Не на ўсе лады
Сіла невідушчая
Праведнай бяды.

Слёзнай долі выракам
Стаў задум іспыт.
Гнеў на волю вырваўся –
Мчыцца наўскапыт.

Царства зла надломлена.
“Крепостной” рэжым
Свой штандар далонямі
Мёртвымі дзяржыць.

І падмогі-міласці
Не чакай з нябёс…
З небыцця не вылезці:
Косці мецiць лёс.

Не ўваскрэснуць рваныя
Ноздры й капыты.
І смяртэльна ранена
Мора беднаты.

Там, пад Мілавідамі,
Знаць, было няўцям:

Воўчай яме* выдалі
Сэнс яго жыцця.

Вочы Багародзіцы,

Ахрысціўшы край,
Дух яго праводзілі
У нябесны рай.

Што шляхоў (запомнілі)
Ім няма назад…
Слізгае па помніку
Воч маіх пагляд.

Пішацца не ночкаю
Шчасця мерны квіт.
Лёсы не аплочаны
Адышлі ў нябыт.

Ціха птушкі, лісцікі –
З вамі гавару:
Пад напорам ісціны
Не ўсядзець цару.

* Воўчай ямай Кастусь Каліноўскі называў царскі суд.

3

Плямістай гісторыі абноскі
У карчме цікаўнасці – ў цане.
Крочу там, дзе калісь Каліноўскі
На мяцежным лётаў скакуне.

Ты мне, чорна-белая бяроза,
Памяць слынных продкаў пакажы:
Дня без болю,
Рэкруцтва і розгаў
І без пылу не пражыў мужык.
Помста ўздрыганула неба высі.
Лёцьма набіраючы разгон
Паняслася шабляў пара тысяч
Пасячы маланкамі прыгон.

Вочы ў вочы з недругам усутыч
Стала праўда,
роўнасць,
гнеў,
аброк.
Вылятае ворагу насустрач
Юнай рэвалюцыі рывок.

Бойка распластала скрыдлы хоцьма.
Груды ўшчэнт пасечаных ахвяр.
Царскаму арлу нагнаў страхоцця
Справядлівай вольніцы змагар.

Полымя нясцерпу захістала
Цэлы свет – адшарнік так даняў…
Будучыню вобмацкам шукала
Цемра абяскроўленых сялян.

*Святліца*

Загібеў радок “Мужыцкай праўды”.
Стала прахам
Стрэмя і аброць.
А бядняк памешчыцка-дзяржаўным
Новым чыншам,
Выкупам аброс.

Памяці святой цяжар – ён горкі,
Без яго былое – не ўявіць.
Слава і яго бунтоўнай зоркі
На сялянскай узышла крыві.

Сёння па-над бацькаўшчынай боскай
Непагадзі зноў
Гудуць вятры?
Прывідна кружляюць адгалоскі
Даўняй бураломнае пары.

Мне разгатых хвой лясное войска
Аб харобрай звоніць даўніне...
Тут калісьці Костусь Каліноўскі.
На паўстанцкім лётаў скакуне.

**Дзве лютаўскія дарогі дадому**

1

Раніцай мяцеліца ўсхадзілася,

А мяне дарога павяла
Да хаціны,
Што ў снягах згубілася,
Набірацца сілы і цялла.

Напаўзаюць думы
Плыўкай лаваю:
Не скупее памяці казна.
Скразнякі буяняць,
Неба плавіцца,
Дыхае маразам белізна.

Не суняць мяцеліцы спіральнае,
Не стрымаць яе,
Не папракнуць.
І не разамкнуць вышыні раннія,
Пачуцця зімы не разамкнуць.

Толькі ядлаўцы трымцяць,
Як прывіды.
Штосьці пра сваё завёў багун.
У каргі-мяцеліцы
Я выведаў,
Быццам бы ў прыроды
            Я ў даўгу.
А пад той вунь елкаю надрэчнаю,
Дзе узняўся снежны цуд-палац,
З дрэвамі мяцеліца

*Святліца*

Аспрэчвае,
Што й яна тварыла папалам.

Падарожны дыхае не ладанам.
Скразнякамі,
Вільгаццю ракі.
Так працуюць
Весела і зладжана
Лютаўскіх мяцеліц языкі.

Пра наш край,
Пра поле беларускае,
Ой, замнога клопату ў яго.
Завірухі звілістыя мускулы
Вырастаюць гурбамі снягоў.

І скрыпяць,
Скрыпяць сукоў ключыцамі
Так зласліва хвоі ўзбоч дарог.
Боязі, ці страху рэпетыцыя –
Белыя гадзюкі каля ног.

2

Ранкам усхадзілася мяцеліца,
Жудасцю ахоплены кусты,
Цені пахаваліся,
Не сцелюцца,
Маладзік зжаўцеў да кіслаты.

Цела поля
Рвала і нявечыла,
Мне ж сківаіцы сіверам звяло.
Тапаром мяцеліц
Перасечана
Сувязь паміж небам і зямлёй.

Падарожнага стаміла змоўніцтва
Ветру злючага,
Сумётаў,
Маразоў,
Думкі напінаюцца,
Не мовіцца,
І адлегласць месіцца без слоў.

Ўсе шляхі мне перакрытыя,
Завалены,
Мнагавата сёлета снягоў,
Завіруха, дрэвам падпяваючы,
Ледзяніла сэрца мне тугой.

* * *

Над рэчкаю
Лясная цішыня,
Бы ў хаце
Адзінокае бабулі.

*Святліца*

З карэннем дрэва вырвала,
Сагнула
Надоечы вятроў тугіх гайня.

У роспачы злучылася сасна
Ў абдымках са сваім
Адлюстраваннем.
Зайшла ў былое зорка
Існавання,
Аддаўшы сокі парастку спаўна.

## Вершы для дзяцей

### Валун

Пад крутым абрывам Проні,
Між травы, нібы на троне,
Вунь сядзіць Валун Вялікі
У чырвоных чаравіках.
Акружыў яго альхоўнік,
Быццам бы целаахоўнік,
Нібы войска, круглы год
За спіной стаіць чарот.
Падыйшоў я. Прывітаўся.
– Як жывецца? – запытаўся.
– Бачыш, дуб расце на кручы –
Ён мяне цярпенню вучыць.

Хоць ляжу я тут вякамі,
А на лёс не наракаю.
Птушка, сеўшы на спіну,
Мне раскажа навіну.
Калі прыйдзе рыбалоў,
Пакажу дзе добры ўлоў.
Пасядзіць са мной пастух –
Пра жыццё гамонім ўдвух.
Прабяжыць, бывае, мыш –
І спытае: “Як сядзіш?”
А каб я не задрамаў,
Салавей пяе раманс.
А калі наступіць лета –
Я запісваю прыкметы.
Шмат прыкмет у Валуна.
З іх галоўная адна:
На каменні мох расце
З боку поўначы гусцей.

– Ну, Валун, бывай здароў,
Мне пара ісці дамоў.

## Гарлачык белы

На вадзе расце гарлачык.
– Ты, Кастусь, яго не бачыў?
О, тады пайшлі!

Сцяжынай
Крочым мы да азярыны.
– Глянь: квяцістая затока
Як прыгожа лашчыць вока!
Хто на ўсёй вадзе азёрнай
Вышыў белыя узоры?
Сеў на ліст гарлачык белы
І паплыў між кветак смела.
А пялёсткі, нібы крылы,
Хутка ў сем гадзін раскрые.
І на хвалях,
Як падушках,
Лісцік будзе кветку гушкаць.
Кветак шмат.
Ды ім не цесна.
На вадзе жывуць сумесна.
А на дне, напэўна, змалку
Вадзянік жыве з Русалкай.
Кожны дзень з работы летам
Да яе ідзе з букетам.
Тут жывецца ўсім заможна:
Рыбе, мошцы,
Птушцы кожнай.
А цяпер, Кастусь, зазначым:
У сем вечара гарлачык
Свае кветкі закрывае
І ўсю ноч адпачывае.

**Жук і Жаба**

– Жук на мне рашыў жаніцца, –
Кажа Жаба-жартаўніца. –
Буду я жаданай жонкай.
Маляўніча жыта жоўкне.
Жнеі жнуць.
Ручай журчыць.
Ды журліва млын вурчыць.
Жораў жвава круціць жорны,
Жучка сыпле жменяй зёрны.
Падае ёй жыта жбан
На рагах мажны Баран.
Жаўтапузік разам з Жаўнай
Мліва ў мех ссыпаюць спраўна.
Мыш, Кажан і кажаняты –
Ўсе работаю заняты.
Толькі жылісты жаўнер,
Натапырыўшы каўнер,
Жлукціць з жолаба шыпучку –
Папрасі – як дасць жыгучкай.
Жаба ў жоўценькай жылетцы
Жвава грае на жалейцы.
А на жэрдцы Жук жужжыць:
– Будзем з Жабай добра жыць!
Гэта мне наплёў Павук,
Як жаніўся з Жабай Жук.

*Святліца*



***Венанцы Бутрым***

**Восень**
**(Урывак)** ***Дз.Шчаснаму***

*“А между прочим,осень на дворе...”*
*Н.Рубцов.*

1

Кастрычніцкая яснасць!.. Як праз шкло,
прамытае не раз да таўшчыні належнай,
ільецца створанае вечнасцю святло,
сатканае з журбы і радасці бязмежнай.
І песні горнуцца, бы ветразі плывуць,
у словах, знойдзеных і сказаных другімі.
І спее ўласнае. Збірай і не забудзь,
што так пяецца толькі між сваімі...

2

І пракрадзецца досвіткам туман нямы,
абдыме былку кожную. І стан яліны дужай…
Счакаўшы раніцу, пад сонца пойдзем мы,
зямляк і суайчыннік – шчыры дружа,
адчуць, як у гаі з бяроз, ляшчын, асін
страсаецца цішком пад кірзавыя боты
начышчаная медзь, прынадлівы кармін,
нейтральнасць бляклас ці пры кроплях пазалоты.

3

Спакой і цішыня – не маюць меж і мер.
Ахейцы сінявы такой не сустракалі!
Халаднаваты клімат… Быў бы свой Гамер,
калі яны Руна яшчэ і не шукалі…
А нам – элегіі, санеты. Конь сівы,
барвовым захадам ружова фарбаваны…
І гэты вось кастрычнік! Залаты,
да дробязей знаёмы, зноў жа – нечаканы…

4

Быў млын калісь…Праз рэшткі паляў лье
у нізкіх берагах рака струмень халодны.
Спрамляюць рэчышча. Чакае тут яе
бетонная труба. Над ёю – мост выгодны.
Падыдзем? Пастаім, каб лепей ацаніць
прыкметы навізны, наканаванай часам.
Цякла – як сонная, тут – пеніцца, бурліць!
І зноў спакойная – пакінулі сам-насам!

5
Зусім як чалавек! Ды праз матора гук
ён нашых разважанняў не пачуе:
з навюткім кошыкам лазовым паляшук
з-пад Пінска на Навагрудак шыбуе!
Да тых грыбкоў, што ў кошыку ляжаць,
зяць прынясе што-кольвечы з сельмага...
Без кроплі ж той – ні быць, ні гасцяваць:
адолее, замучыць смага...

6
Ах, колькі ж іх было: тых кропель, баразён,
крывавых мазалёў, крыжа здранцвення, поту,
дажджоў заложных, каб буяў драсён,
і тых чаканых, зсунутых на потым!
Шчаслівa, дзядзька! Ўнукаў падтрымай,
Хай доля мачыхай ніколі ім не будзе!
А розных там хвароб, нястач – о, непачаты край!
–
адолеем, ўсю плойму збудзем!

7
Зноў цішыня. А шэранькі біплан
за хмару лепіцца ледзь бачнаю стракозкай...

* * *

Ўсё туды, ў непадробную сінь
так спакусліва цягнецца зрок!
Зразумець – і надзею пакінь
што знайшоў праз будзённасць дарог.

Выбягаюць асіны наўпрост –
галізна і ліняласць кары;
на атлас і крамнёвасць бяроз
сонца нізкае позняй пары;
перасвіст развітальны шпакоў –
непазбежнага радасць і сум.
І аддаць ўсё, што маеш, гатоў
за звычайны пад лесам валун...

– Прыпыні, брат. Ніколі яшчэ
тут, ў баку ад гравійкі, не быў...

* * *

...Змые пыл, жыватворным напоіць –
ажыве, расцвіце, усміхнецца...
Неспадзеўкі раскажа пра тое,
што драмала і ў думках, і ў сэрцы.
Прынясе цёплым ветрам здалёку,
з ператканых праменнямі даляў,
буслянятаў няўрымслівых клёкат,

пераразвоны крынічных крышталяў,
шапаценне вярбы, плёскат хвалі,
шэлест лоз, асакі і чароту.
І трывогі аціхлі, апалі
разам з рэхам апошніх грымотаў...
Праспявае зусім нечаканым,
дзень будзённы, як свята, расквецiць.
І зашэрхнуць, загояцца раны.
І не будзе ўжо болю на свеце,
страт, нападаў, гвалту і боек,
ганьбы, нават нязначных падманаў.
Неўпрыкмет ўсё пасохне благое.
І тады ўжо амаль беззаганны
ціхі вечар пасля навальніцы
над табой, над дарогай, над Краем.
Недзе чуў пра такое... Як сніцца...
Што ж, бывае.

* * *

Першы снег, беспрычынная радасць!
На гарачыя вусны рабін
пацалункі халодныя градам –
смех таропкі ад гнуткіх галін...

Стынуць пальцы, падступна халодзіць
прытуманены шэранню стан.
О, спрадвечна салодкі падман,

ты, чаканне, сумненняў разводдзе!..

З кузні звон, перастукі. Бунтуе
ў гулкім горане полымя шар,
ды абняты дрымотай абшар
нават ўласнага сэрца не чуе...

Будзе ноч насцярожана-светлая
сілуэты лічыць ўздоўж дарог...

### ***М.М.Ш.***

1

Дзеля славы нязгаснай – красы
пацалункамі ліпеньскай раніцы
расцвілі ў першых днях касачы.
Спакваля, на зары, на світанні...

Сіла нашай зямлі перайшла
праз карэнні ў тугія пялёсткі
сінім, жоўтым – адбіткам святла,
сцюжай зім, пазалотаю вёснаў.

Каб спявалі ў жаночай руцэ.
Каб ўсё новую песню складалі
новы Альбрэхт і новы Вінсент.
Ну, і ты, мой шаноўны Міхале:

Не скупіцца на колер абшар
тым, хто ўбачыць, пазнае, адчуе...

2

Цякуць гады. І часу плынь нясе
ўсё новую вясну, як і мяне з табою.
Ты ведаеш, і я перад сабой не ўтою,
што набліжаемся да мэты пакрысе.

Адным знайдзёнкаю, а іншым – горкай згубаю
перататасуецца усё, нібы калода карт:
з кахання – лёгкі ці нікчэмны жарт;
і недарэчны фарс – з работы любай.

Ды што! Вось жнівень дабівае дні,
і хутка астрам дацвітаць на карані...

Ўжо неба пачало хіліцца долу,
твар Месяца збляднеў ад смутку і турбот –
быў сёння першы павуціння лёт,
спакойна-ўпэўнены, хаця яшчэ і кволы.

* * *

Не пытай ты мяне, не пытай,
нават позіркам, крыху упартым!
Хай адкажуць табе небакрай,

казялец і, увагі не варты,
сіні бор, і аблокі над ім,
нерухомыя ў жніўеньскай стоме;
і лянотным дажджом залатым
сонца бляск на звычайнай саломе...

Я не першы палонны з людзей,
што шукаюць сваю азярыну.
Там, спатоліўшы смагу грудзей,
не баішся ўжо нават загінуць...
Бо спазнаў, бо ступіла нага
на ледзь бачную сцежку яднання.
Небам сінім, бяздонным – вада.
Ў ёй аблокі – маўклівыя здані.

Толькі вочы прыкрый, ўзварушы
вастракрылую ластаўку – памяць.
І пачуеш, як шэпча ўначы
плынь вады пад цяжкімі плытамі...
І, слабых не шкадуючы ног,
тым жа берагам, ўніз, крутаярам,
ўжо брыдзеш напрасцяк, без дарог,
з неабсяжным сам-насам абшарам.

Кроплі зор праз імжу, праз імжу...
То ярчэюць, то знікнуць гатовы.
Не трывож – не пытай! Што скажу?
Выцвітаюць прывычныя словы...

*Святліца*

### *Алесіку*

Там, за вадою, светлыя пяскі
смугой ліловаю закрыла,
узняўся вецер, мчыць на пругкіх крылах
і пляжыць лазнякі.
Ўбівае ў небасхіл ружова-белы штых
маланка-бліскавіца.
Яе не ўтаймаваць, прад ёй адно скарыцца!
І Сож сівы прыціх...

А наш маленькі спіць, перамагло.
Нясе па хвалях сну крыштальнае вясло...

На захад Сонца йшло, як радасны асілак,
і рукі матчыны, і лёгкай хмаркі цень,
і напалохаў чмель, і крапіва ўкусіла...
Які шчаслівы і бясконцы дзень!

* * *

Чысты кобальт прамытага неба –
трое сутак ішлі ўжо дажджы.
Гоніць, гоніць – пазбыцца, знаць, трэба,–
друз аблокаў да нейкай мяжы.

І табе было неяк маркотна –
ўсё крадком паглядала ў вакно:

след на шыбе ад кроплі самотнай
так знікомы!.. Прапаў – заплыло...

А скажу я табе: неаднойчы
яшчэ будзе прычына тузе!
Хмар прыгнаў буйны вецер-малойчык –
зноў імжыць і гняце пакрысе...

Дык бярэм, хоць на сёння, з сабой
гэты белы на сінім прыбой!

* * *

Калі у памяці перабіраю дні
ці цені дзён, змарнелых, і бясследна
(як зерне, што на глебе беднай
не мела сіл падняцца і расці),
прапаўшых для мяне і для людзей,
бо перамолатых мізэрнасцю падзей,
з дзіцячай роспаччу знайду адзін,
падхмелены, як сок, марозу ўзяўшых журавін.

Вясковай працаю прытомлены залішне
ўжо ўлёгся ён і сном каменным спіць,
паклаўшы галаву на роснае крысо.

Ліст не шалохне. Ў венцер вішні
заблыталася зорка і глядзіць
у цёмны двор і чорнае акно.

*Святліца*

***В. В-у.***

Кінем ўсё і на досвітку едзем
ў дробнай хвалі губляць паплаўкі...

Дальні бор і аблокі-суседзі
між драцін патанулай лазы;
цела светлае ў цёмнай кашулі –
цягне век свой крывуля-вярба;
і над грудам, дзе продкі паснулі,
тлуміць ветрам кірмаш варання.

Проці сонца іскрыць павуцінне,
спеюць словы, ўбіраючы сінь...
Хай мой голас тут раптам загіне,
толькі ты, дарагая, не згінь!
Сотня год – толькі кропля расы
на спакойным абліччы тваім...

* * *

Ночка хмурыла хмар брыво,
сон з павекамі стрэцца не мог.
Трэці певень перасцярог...
І адразу адхмарваць пайшло.
Суцішылася ўміг – Маўчун
мяккі палец да губ прыклаў...
І па безлічы траўных струн

ціхай думкаю – шэрань лягла
пры народзінах шчырага дня.

Хто ні пройдзе, стары ці дзіця –
Колькі хочаш ззяння бяры...
Дарагая мая Зямля!
Сонца шар залаты!

* * *

*...у нячуты павер запавет,*
*палюбі непазнаную мэту...*
*А.Разанаў.*

За пасмай бору – ўжо за даляглядам!..–
па лапінах іржышча, па раллі
калі і кім пасеяна прынада?
Чые зярняты рунню узышлі?

Не быў ніколі там... А, мусіць, і не буду –
што не сабраць, а дзе і не дайсці:
сплываюць дні без нашага прысуду
у хуткаплынным ручаі – жыцці...

Няўмольны час гадзіну за гадзінай
зрывае з дрэва існасці тваёй.
І толькі хмар і ветру безупынны
праход, пралёт і свіст над галавой...

А там... такая позняя ўжо восень,
што лістапад, яе апошні сын,
ўжо нават промня сонца і не просіць
для схаладалых, голых арабін.

І гнецца вецце!.. І парывам новым
страсае гронкі, бы жывую кроў,
на незаменную нічым аснову
халоднай гліны, мокрых верасоў.

А ўжо і прыцемкі – наканавана.
І цемра цяжкая лягла на ўсё.
А заўтра? Сонцам мо спавіты ранак,
такі, які за ўсё жыццё,

каб ўбачыў нехта – слаўны міг удачы! –
не слотай змучаны, здранцвелы лог,
а рай зямны для ўсіх – і не іначай! –
ступіўшы там, дзе я прайсці не змог.



*Ян Збажына*

**Гербарый**

Навошта тая рэўнасць, калі жанчыны гарманічна адна адну дапаўняюць і ўспрымаюцца, як часткі адзінага цэлага.

Моцны пол не мае ўзросту – толькі цела. Супрацьлеглы яму пол (не падабаюцца назвы: дзяўчына, жанчына, рыбанька і г.д.) – узрост: Джульеты і ўсе астатнія лічбы. Якім дзікуном трэба быць, каб закахацца ў лічбы.

Жанчыны вельмі хутка выклікаюць аскому. Не абрыднуць толькі мроі аб іх.

Жанчыне ўласціва шчыра кахаць, але быць шчыраю?..

Лаліты майго натхнення, як вам яшчэ далёка да Набокава!

Як сімвал гармоніі ва ўласным гербарыі хочацца мець на адным сцяблу і бутон і расквітнеўшую ружу.

Не кажыце: жанчына бальзакаўскага ўзросту – не хлусьце! Гэты ўзрост, дакладней – стан, трэба называць "бадлераўскім".

Вучаніцы старэйшых класаў не надта ахвочыя да вывучэння гісторыі – кожны вечар у іх дастакова ўласных гісторыяў.

Прыгажосць жаночых ног вымяраецца даўжынёю спадніцы.

Мастацтва – ніколі не верыць слабому полу і ставіцца да яго, як быццам верыш яму.

У адрозненні ад мужчын, здрада жанчыны – аднначасова і прадажніцтва.

За ўсё папярэдняе жыццё я знаёмы толькі з двума кабетамі, якія чыталі і разумеюць А. Лосева… Як моцна мне пашанцавала!

Якім трэба быць грахаводнікам, каб спасцігаць душу праз катаванне ўласнае плоці, і святым – праз яе асалоду.

Забарона свабоды сэксу нараджае экстрэмізм. Хто за гвалт – кінь у блудніцу камень!

Ах, якую нянавісць і пагарду адчуваюць да мяне старыя дзевы і сексуальна заклапочаныя кабеты! Вось яны – заканадаўцы і носьбіты маралі!

Чаго вартае жыццё, якое "перажыло" патэнтнасць?

"Не старэюць душой ветэраны..." Паэты – і целам.

## Начныя матылі

Афарызмы часта нагадваюць атавізмы вядомага.

Богу – кесарава, кесару – божае: парадокс, які сам сябе вычарпаў.

Вучыць дзяцей не прагавітых да ведаў – агідней, чым спаць з жанчынаю, якая цябе праклінае.

Ганарыся, што ствараеш мараль для тых, хто

дакарае цябе ў амаральнасці.

Гвалтоўнае зачацце менш амаральна добраахвотнага спарону.

Гісторыя – гэта састарэлая дзева ў пошуках апошняга шанцу.

Гісторыя чалавецтва распачалася каштаваннем з дрэва ведаў, і ўвесь яго гістарычны шлях – гэта пошук дрэва вечнасці.

Гогаль "аддзячыў" Расіі – з яе ніхто так яшчэ не кпіў.

Добры афарызмварты пэўнай філасофіі.

Доказы – заняпад інтэлекту.

Дрэва, якое не дае плоду, ссякаюць. Аднак зялёныя не згодны.

Жах смерці кампенсуе бессэнсоўнасць жыцця. Жах – яго марнасць.

Забіць, каб не пакутаваў – жорсткасць літасці ці літасць жорсткасці?

Зерне, кінутае фарысеямі, прарастае і на каменні.

Зоркі становяцца рэчаіснымі ў лужынах. Яны халодныя, вільготныя і дрыжаць са страху, як кінеш камень.

Ідэя – гэта свежазасеянае поле. Застылыя хвалі мёртвае зямлі хаваюць жывы плод, наліты новым сонцам.

Ілюзорная мара маленькай нацыі – бачыць Збавіцеля ў нацыянальным строі.

Ісціна, агульная для ўсіх, шкодная.

Каб знічтожыць імперыю, часам дастаткова ўкрыжаваць аднаго.

Калі доўга не страляюць гарматы, гарматнае мяса пачынае смярдзець.

Калі жывыя не пахаваюць нябожчыкаў, нябожчыкі пахаваюць жывых.

Кропля дабра пералівае цераз край зло.

Крывавы ўсход і захад – след Чырвонага Сонейка.

*Святліца*

Малады нябожчык смерць упрыгожвае.

Мараль – гэта балаўніца, якая прываблівае прытворнаю цнатлівасцю.

“Міф аб Сізіфе” – абсурдная спроба ўсвядоміць эмацыянальнае.

Мы ўсе родам з вар’яцкага дому, дзе размовы хворых тояць філасафічную глыбіню, а паводзіны лекараў нагадваюць тыранію.

Мяняючы ідэі, знойдзеце скарб.

Нават пошук сэнсу жыцця прыносіць асалоду. Пошук – яго вера.

Нават смерць пакідае мёртвае.

Нашае ўяўленне аб вечным смярдзіць нябожчыкам.

Не глядзі туды, дзе смутак,– там пахавалі Хрыста; не глядзі туды, дзе весялосць,– там Яго ўкрыжоўваюць.

“Не рабі іншым, чаго не хочаш, каб рабілі табе”. Не жадаю шкадавання, міласцівасці, паратунку, запрашэнняў і г. д..

Пакуль вада шліфуе каменьчык на беразе, каменьчык адшліфуе акіян.

Пакуты набліжаюць да мудрасці, ісціну знаходзіць радасць.

Памылка Сакрата: філосаф – не вынік дрэннай жонкі; апошняя – вынік філасофіі.

Па смерці кожны сустракае самога сябе… Жахліва?

Рабства ўспрымаюць, як трагедыю рабы, і толькі сапраўды свабодныя ставяцца да яго з цынізмам.

Разам з начнымі матылямі праз цемру маралі ў святло агня!

Разбэшчанасць і аскетызм – дзеці інтэлекту.

Разважанні аб смерці прыемна супакойваюць тым, што і сама смерць падуладная ім.

Самазабойства – заставацца Асобе настаўнікам у казённай школе сярод народжаных люмпенамі.

Смерць агідная больш за ўсё тым, што разам з табою не памірае ўсё чалавецтва.

Суцэльную костку галавы магчыма схаваць толькі ў пагонах.

Сэнс кожнае думкі – кропка, шматкроп'е – бессэнсоўнасць.

Той, хто пераступае мараль, трапляе ў вечнасць.

Толькі ісціна сама сабе адмаўляе.

"Увесь свет – тэатр", але чый – Шэкспіра ці Нерона?

У таго, хто хоча забраць у цябе маладосць, забяры жыццё!

Фром распрануў душу чалавека – і, аголеная, яна засаромелася.

Фрэйд засведчыў ісціну, якая памірае разам з чалавекам, ён – забойца чалавецтва.

Хто доўга ўглядаецца ў зорнае неба, запаліць на ім сваю Бітлііемскую зорку.

Хто не ведае, чым вабілі Хрыста бадзягі – той не хрысціянін, хто ведае і не бадзяга – фарысей.

Хто ўсміхаецца смерці – ўсміхаецца чалавецтву.

Цвярозасць – маці мяшчанства. Мастацтва і навуку нарадзілі п’яная блудніца з галодным аскетам.

Цень чалавецтва знікае там, дзе пачынаецца змрок багоў.

Цынізм – рэалізм без пачуццяў.

Чалавечым Ніцшэ абмежаваў чалавецтва, адмежаваўшыся ад дзікуноў сам. Пасля гэтага ў цывілізацыі толькі адно намаганне – выбрацца з гэтаае агароджы.

Чым больш нікчэмнае чалавецтва, тым на яго фоне больш выразным здаецца Гайдэгер.

Шапэнгауэр шукаў абсурд філасофіі, астатнія – філасафічнасць абсурду.

Шлях Еўропе асвятліла вогнішча інквізіцыі.

Шукаючы святое, знайдзі яго і грэшным.

*Святліца*

Шчырасць апладжвае, хлус нараджае, праўда хавае.

Шчырасць ператварае грамадскае ў забабоны.

Як вынік шкадавання Дастаеўскім зняважаных і прыгнечаных – наданне апошнім уласцівасці думаць.

**Меч гладыятара**
**(Эсэ)**

Чаго вартыя багацце і пасады, калі яны атрыманы не ў спадчыну, а здабытыя мазалямі і цягам часу. Кар'ерысты марнасці – марыянеткі маралі, што на каленях перад грамадскім! Толькі на каленях вы здольныя задзіраць адзін перад адным галовы.

Вы гуляеце ў жыццё, як тэатр Шэкспіра. Мне ж даспадобы амфітэатры Нерона. На іх добра прадзьмуваемым з усіх бакоў пяску дзеючыя асобы сапраўды паміраюць і перамагаюць, хвалююцца і кахаюць.., і цешацца, калі перажывуць канчатак апошняга дзеяння жывое п'есы.

Вы, майстры сцэны,– толькі акторы, вычварэнцы саміх сябе. А яшчэ пытаецеся,

чаму я не карыстаюся агульнаю шклянкаю, а п’ю з пляшкі і абавязкова ў адзіноце.
Я не бачу вас. Вы яшчэ не памерлі, але так і не нарадзіліся. Дзе вы?

Я магу ўспрымаць вас праз кінуты з трапезы думак абсмоктаны ўшчэнт інтэлект, які вы клічаце мараллю. Тады ўвесь свет ператвараецца ў амфісцэну. Як гэта прыгожа! – Жывая карцінка вашага праяўлення: сваркі і бойкі між дзяржавамі, народамі, класамі...

Я ўглядаюся ў любоў і нянавісць і не бачу дабра і зла. А вы між любоўю да жыцця і веданнем аб смерці знайшлі абгрызеную костку і прагнеце з яе мяса. Кожны з вас павінен любіць бліжняга, а вы спачуваеце адзін аднаму, яшчэ горш – вы блытаеце любоў з самаахвярнасцю.

Кажу вам: меч гладыятара – гэта пэндзаль, іякім фарбуюць жыццё, а не свет пад колер жыцця.

## Лялька Нона

Першую дзяўчынку, з якой я пасябраваў, звалі Нона. Нона была суседкаю. І мы разам гулялі ў доктара. Лекі рабіліся з прысмакаў, і дзяўчынка старанна глытала шакаладныя

таблеткі і цукровыя парашкі, запіваючы ўсё мікстурамі. Апошнія гатаваліся загадзя, і не адзін літар духмяных варэнняў пайшоў на іх выраб. Лекарскія намаганні былі небезвыніковымі. Мая хворая стала самаю паслухмянаю ў свеце. Глытаючы лекі, суседка рабіла выгляд, што вельмі горка, пунсовыя вусны крывіліся, а вочкі напаўнялі слёзкі. Тым не менш, Нона старанна выконвала ўсе загады свайго доктара. Далікатна старым шалікам я бінтаваў яе ручкі і ножкі, уводзіў "болі-болі", як мы называлі ўколы.

Каб пераканацца ў сваіх фармацэўтычных здольнасцях, час ад часу, употайкі, салодкае аздаблялася сапраўднымі таблеткамі і парашкамі. Калі не ўдавалася скрасці лекі, апошнія з поспехам замянялі другія хімічныя рэчывы, якія ў вялікай колькасці траплялі мне пад руку. Іншым разам, пасля гэтых рэчываў з цукрам Нончын роцік пачынаў выдуваць пухіры, і суседзі тэрмінова выклікалі хуткую дапамогу. Я ўважліва сачыў за працаю прыезджых лекараў, якая выклікала маю падазронасць. Аднойчы нават вырашыў спрактыкаваць больш якаснае пераклізмаванне, злучыўшы вадаправодны кран са шлангам. Ды разгубіўся, даклада не ведаючы, куды накіраваць струмень. Вырашыў дачакацца

наступнай “хуткай” і быць больш пільным. Але нечаканы выпадак парушыў мае планы…

Нона была не толькі сытым дзяўчом, а і значна старэйшаю за мяне. Пасля дбайнага дэзінфіцыравання жывоціка сінькаю бацькі забаранілі ёй прыходзіць на працэдуры. Маўляў, малы я і блытаю зялёнку з сінькаю. Трэба спачатку крыху падрасці, а ўжо тады займацца лекарствам. Аблаялі дальтонікам. Адным словам, стала мне сумна гуляць без пацыенткі.

Расчуліўшыся, мая маці купіла ляльку, як я і прасіў, з блакітнымі, бы ў суседкі, вачыма і белымі валасамі. Ляльку назвалі Нонай. Другая Нона толькі і ўмела, што плюскаць вачыма, а яе адзіная сукенка набіла аскому. Лялька Нона мне хутка надакучыла, і я вырашыў ахвяраваць яе дзеля навукі. Упільнаваўшы, калі нікога не будзе ў хаце, і на ўсялякі выпадак стуліўшыся за шафаю, малатком раструшчыў лялчыну галаву. Вельмі цікавіла паглядзець мазгі, бо вонкавае ведаў даволі дасканала. Колькі ні ўглядаўся і колькі ні трос ляльку, нічога не ўбачыў і не вытрас.

За пашкоджаную цацку адстаяў цэлую гадзіну ў кутку. Там і зразумеў: тое, што не было ўкладзена адразу, нават малатком нельга выбіць. А лекарам я ўсё ж такі стаў, сапраўдным стаматолагам. Вось толькі лялька Нона за дзень

да майго захворвання ці да знаёмства з чарговай каханкай гэтак жа ўсміхаецца мне праз сненне.

## Калі вы нарадзіліся Адамам Міцкевічам…
## (Эсэ)

Не давядзі вам Бог нарадзіцца на сумежжы культур, цывілізацый, эпох, у “дзяржаве”, ад якой засталася адна назва і “хлопская” гаворка – некалі вялікадзяржаўная мова найбуйнейшай у Еўропе “княскай імперыі”, аб чые межы разбіваліся хвалі “студзёнага і цёплага” мораў: у той мясцовасці, якую суседзі з захаду ахрысцілі, як Усходнія Крэсы, а суседзі з усходу надалі статус Паўночна-Заходняга краю; сярод таго карэннага народу, які і ўсвядоміць сябе толькі можа, як “тутэйшым”.

Ды яшчэ, калі кажуць, што ваш бацька з мазураў, а маці – яўрэйка, і вы ніяк не “цягнеце” на тутэйшага, а за сваю шляхетнасць трэба змагацца не высакародна – шпагаю ці пісталетам у двубоі, а ўсімі праўдамі і няпраўдамі ад мястэчковых да губернскіх і вышэй чынадралаў імперыі “двух сталіцаў”…

Калі вы спалучаеце ў адной асобе палітыка і мастака-творцу, і, з аднаго боку, вы –

“асвечаны вальтэр’янец” і цынік, з другога – рамантык і паэт…,

калі, улічваючы вышэй сказанае, ваша каханка аддае перавагу тытулаванаму ваяруграфу і бярэ з ім шлюб, а вы вымушаны працягваць свой радавод згодна з лепшымі традыцыямі “сыноў Ізраіля”…

калі, маючы Бацькаўшчыну, вы не маеце Радзімы, бо для існавання апошняй неабходна незалежнасць, і лёс ваш – гэта бясконцая вандроўка па краінах, і жыццё ваша – барацьба за волю…

Тады недобразычліўцы абвінавацяць вас у бруднай палітыцы, пры дапамозе якой вы стварылі сабе выбітнасць палітычную вершаплётствам, альбо выбіваліся ў літаратуру палітыканствам…,

тады ёсць верагоднасць, што вас атруцяць, каб вы не належалі самі сабе…,

тады нашчадкі ўсіх гэтых міжчассяў і бязмежжаў перасварацца паміж сабою, ірвучы вас на часткі…,

тады шмат якіх бездараў выб’ецца ў таленавітыя, даследуючы вашае жыццё “па костачках”…,

тады вы станеце прыкладам для шмат каго і, акрамя аднаго генеральна-генетычнага з вамі паэта Уладзіслава Хадасевіча, знойдзецца

добры дзесятак “самазваных” перабруднікаў, якія знойдуць сваё месца ў вашым радаводзе…,

тады вашым імем назавуць вуліцы, калгасы, установы, паставяць помнікі, адчыняць музеі, адзначаць у ваш гонар святы…,

тады вы перастанеце быць самім сабою, бо будзеце адлюстраваннем і адлюстроўваць будзеце цэлую эпоху, ператвараючыся сапраўды ў міжчассе і бязмежжа…,

тады наўрад хто зразумее, што ваша роля была ў тым, каб міжчассе і бязмежжа ўкласці ў час і межы… І калі гэта так, то вы – геній, а гэта ўжо па-за межамі свядомага.

**Прафанацыя**

Зневажаю мараль і плюю ў яе вочы,
А яна, балаўніца, мне толькі рагоча,
Шчэрыць пастку зжаваных зубоў.

Па касцёлах і цэрквах з іконаў святыя
Пазіраюць здаўна.., але гэта не тыя,
Хто сарве кайданы з нас рабоў.

На слупах ліхтары абмяжоўваюць неба
І ад іх інтэлекту за горад ганебна –
Вочы поўняцца горыччу слёз.

Ну, а нас абмяжоўваюць хлусам пракорі,
Што разносяць па вуліцах гулкія крокі
І ад крокаў па скуры мароз...

**Жоўтая пастэль**

Шыбы прымерзлі
Да зімы.
Малюнкі здранцвеласці.

Подых поўні.
Таямніца
Адлюстраванага…

Сусвет у ваконнай
Раме –
Калейдаскоп ільду.

Жаданне ўтаймавацца
На шкле
Крышталем святла.

Цёплы пакой.
Вярблюджая коўдра.
Нерухомасць.

За вокнамі
Пацеркамі слядоў –
Мае крокі.

**Танка**

* * *

Каляровая
Нявыказанасць снення.
Пэндзлем раніцы
Размалёўваю Сусвет.
Жывыя светлацені.

* * *

Нябожчык едзе
На могілкі. Воз трасе
Па калдобінах.
Нязмазаныя колы
Скуголлем рэжуць вушы.

* * *

Дзве ружы ў вазе
Пакахалі васілёк.
Зайздрошчу яму
І выплёскваю ваду.
Засмяглыя – завянуць!

**Хоку**

* * *

Дождж ліў, як з вядра.
Парасону ўсё роўна.
Ён спаў на шафе.

* * *

Кропля на сцяне
Ўтаймоўвае думкі.
Разглядаю іх.

* * *

На шальках вачэй
Пераважвае вільгаць
Вуснаў каханкі.

* * *

Ноч сярпом жне пыл.
Шпурляю глыж у ставок –
Кругі на вадзе.

* * *

Пішу жанчыну.
Далоні ў плямах фарбы.
Немаўля плача.

* * *

Распранутая
Прыгажуня ў трупярні
Моцна смярдзела...

* * *

Рву эдэльвейсы.
Водара асфадэляў
Прагне каханне.

* * *

Трачу прытомнасць:
Цалаваць каханку, як
Падаючы снег.

**Версэты**

* * *

Закахана пазіраюць кветкі. Зрываю найпрыгажэйшую. Яна расчуленая і павольна вяне.

Крохкія букеты ўспамінаў на сметніку прывабнага.

Вяртаюся да кветніка. Водар жывых красак узмацняецца.

* * *

Струна тоіць гук. Бялізна – жаночае цела. Мелодыю ўтаймавалі ноты.

Кранаю струны.

Рапсодыя для дваіх.

* * *

Любая, хто спадарожнік на сцязі твайго лёсу? – Сінтэз бацькі, настаўніка, каханага ці проста сябра?

Праз тваю свядомасць хачу прайсці святам.

* * *

Пазіраю ў сябе і бачу, як тысячагоддзямі хлопчык з блакітнымі вачыма ўглядаецца ў бездань неба, і безліч вады ля ног яго пранесла хуткаплынная рака.

Знікаюць народы, змяняюцца цывілізацыі, а яго карма – праз вечнасць вартаваць позіркам невыказанасць…

*Алесь Корнеў*



## Святочны настрой

Паветра – як бальзам настоены.
О, колькі моцы ў той настойцы!
І мой душэўны ўздым патроены,
Бо гэткі дзень – Святая Тройца!

Таплюся ў чэрвеньскай траве,
А побач сонца ловіш ты.
Над намі водарам плыве
Дух светлы, сапраўды святы.

І хочацца душой узвысіцца,
Як сосны ва ўрачыстай стойцы.
Галінкі ўверсе ціха хрысцяцца,
Бо гэткі дзень – Святая Тройца.

Дзесь там – Бог Бацька і Бог Сын,
А з імі разам – іхні Дух.

Прад імі я, ды не адзін,
З табою мы, але не ўдвух.

Між намі дух кахання тоіцца,
Таму ўсе трое мы – малойцы;
І шчасце наша хай патроіцца,
Бо мы – нібы Святая Тройца.

**Серэнада закаханага Месяца**

Твой срабрысты белы локан
Разглядаю і маўчу.
Ва ўлюбёнасці высокай
Над табою трапячу.

Ты павольна, як у вальсе,
Круцішся вакол асі…
Век такою заставайся
І красу сваю нясі

Ў космас цёмны і бясконцы
І ў такі ж бясконцы час.
Бачыш – Сонца! Мноства Сонцаў
Заглядаюцца на нас,

Як з табою я сябрую,
Як мяне ты запрагла

Ў непрадбачаную збрую,
Што з кахання і святла.

Ты мяне на лейцах водзіш –
Каб свяціў яшчэ ярчэй.
Ад цябе тысячагодзі
Не адводжу я вачэй.

Ах, мая красуня-фея,
Яшчэ болей спакусі!
Бо ўсё роўна з-за цябе я
Выракся сваёй асі.

Пяглядзі: сусвет нас песціць,
Зоры моргаюць здаля,
Бо навечна – я твой Месяц,
Ты навек – мая Зямля.

**Асенні стрыптыз**

Ой, людзі добрыя, прайшлі б
Па вуліцы світанкам шызым
І глянулі б, якая з ліп
Найбольш уразіла стрыптызам.

Скідаюць вопратку сваю,

Што ўся з асенняй амальгамы…
Як абыйсці? І я стаю,
Каб не таптаць яе нагамі.

А што калі пушысты слой
Патопча чалавек ідучы?
Я лепей злізанай мятлой
Змяту лісцё хутчэй у кучу,

Зраблю бясполымны касцёр
З адзежын восеньскіх раскошных…
Няўжо жальбы за свой убор
Я не заўважу ў ліпе кожнай?

**Дзве ружы**

Палкае яднанне душ.
У любові, згодзе
Пара расквітнелых руж
Свеціцца ў лагодзе

Побач на адным кусце,
На радзімай глебе…
Шчасце нашае цвіце,
Як зара на небе.

Летам цёплым і сухім

Мы свой куст хісталі…
Толькі вось мы і другім
Падабацца сталі.

Мяне ўлева панясло,
А цябе – направа.
Хтось адрэзаў нас…назло,
Ці для нейкай справы?

Ох, сцярпець бы мне – ды як? –
Новую абразу:
Я ўваткнуты быў у гляк,
Ты ж, вядома,– ў вазу.

Ва ўрачыстасці сляпой
Сталі сохнуць вецці…
Зноў сустрэнемся з табой,
Але ўжо… на смецці.

* * *

Снежныя ніці расчэсаны ветрам
І расцягнуліся на кіламетры,
Як і нуда і людская нядоля…
Снежныя ніці ды лысае поле
Ціха ляжыць без усякай жывінкі,
Нат без намёку на кветкі-травінкі.

Цвеліцца, цвеліцца
З намі мяцеліца,
Блытае ніцямі зноў завіруха,
Толькі не здолее
Болей ніколі ўжо
Нас павязаць безнадзейная скруха.

Што ж, хай сягоння здранцвелая сцюжа
Ўсё наваколле заціснула дужа,
Сыпле свой снег – пераможныя перлы…
Толькі жыццё наша не, не памерла!
Хутка яно з-пад зімовага спуду
Вырвецца і заквітнее паўсюдна.

Цвеліцца, цвеліцца
З намі мяцеліцца,
Путае ногі ізноў завіруха,
Толькі не здолее
Болей ніколі ўжо
Быць перашкодай вяснoваму руху.

* * *

На тым акне, што сонца і не бачыць,
Як бы замёр квітнеючы вазон,
Цішком стаіць у нейкім стане спячым…
Але той стан яшчэ зусім не сон.

Бо кветка ўпарта вонкі выглядае,
Шукаючы адбітачкі святла;
І тут жа смагу прагна наталяе
Той сонечнаю кропляй, што знайшла.

І ад таго, шчаслівая, смяецца
І гэта радасць кожнаму відна –
Бы сонейка само да нас ліецца,
З халоднага паўночнага акна.

**Каляднае**

1
Ёсць край, які ў снягах не стыне,
Дзе людзі ў цеплыні спрадвеку,–
Там нарадзіўся ў Палестыне
Сын Божы ў плоці чалавека.

Мо лёсам і наканавана,
Што Божы дух там лепей грэе…
Таму і болей згуртаваных
Няма нікога, чым яўрэі...

І для руплівых іудзеяў
Не трэба з градусамі “дозы”,
Бо ў іх здаўна жыве надзея
Адно на свой цвярозы розум,

Ды на ўзаемадапамогу
Братоў з другіх куткоў планеты.
Таму ўдаецца ім дарогу
Паўсюль знайсці да ўласнай мэты.

О Божа! Як жа я малюся,
Каб гэткі цуд і ў нас адбыўся,
Каб тут, у нашай Беларусі,
Тутэйшы Збаўца нарадзіўся!

2
Зямля пад белай прасцінай
Рыпуча накрухмаленай.
Усход – аблочны, з белізной,
Гарыць, нібы падпалены.

Адзенне белае ў зімы,
Бальнічнае, звышчыстае…
Вось-вось і ўбачым нешта мы,
Узнёслае, ўрачыстае.

Глядзі ў чаканні і маўчы!
Стрымай пачуцці вострыя!
Застылі клёны, бы ўрачы,
З бярозкамі-медсёстрамі.

І зразумеў я ў гэты час:
Пад сонечнымі блікамі

Сягоння штось чакае нас
Выключнае, вялікае!

Паветра сцялася спярша,
Нібыта шкло ваконнае…
І я адчуў, што вось – Душа!
Святейшая, Ягоная!

Праменні згрудзіліся ў стос
Жывых здзяйсненняў сонечных…
Паблізу недзе, тут – Хрыстос,
Таму так светла сённячы!

Прыйшоў і ў нашыя снягі,
Рыпучыя і хрусткія.
Яму і наш Край дарагі,
Старонка Беларуская…

* * *

Дзе час той нябачны і месца такое,
Ў якім нараджаецца шчасце людское?
Дзе тая святая жывая крыніца,
З якой увесь час асалода бруіцца,
А разам – настрой і душы хваляванне
За ўвесь Белы Свет, за сваё існаванне?
Адкуль наша шчодрасць, пяшчота і дзіўнасць,

І не растаптаная наша наіўнасць?
Адкуль і жаданне, і боль, і маленне
Нячутна ўліваецца ў наша сумленне?
А гэта ўсё разам заўсёды мы бачым
У шчырым, адкрытым паглядзе дзіцячым.
І мо нездарма кожны гэтак ахвочы
Глядзець безупынна ў дзіцячыя вочы,
Дзе ўсе раствараюцца нашы праблемы,
Дзе светлай душэўнасцю гоім сябе мы.

* * *

Канец ужо снежнай гульні!
Зіма з ледзянымі даспехамі
На белым кудлатым кані
Кудысь неахвотна ад’ехала.

Ад бляску расталай вады
Зайгралі пачуцці вясновыя,
І конь ужо скача гняды,
Распырсквае лужы падковаю.

Пазнаў я таго седака,
Вясновага першага егера...
Бо ў постаці Сакавіка
Свяцілася, ззяла энергія.

І ён сваёй цёплай рукой
Абняў стан бярозак прастуджаных,
І пульс пад шурпатай карой
Ажыў і стаў болей напружаным.

А ў полі паўзе баразна
Бясконцай шаўковаю ніткаю...
Дык дзякуй жа, дзякуй, вясна,
Што ўзоры жыццёвыя выткала!

* * *

Над пушчаю, як на мальберце,–
Нябёс блакітных палатно.
І сосны ўжо паспелі ўперці
Ў аблокі пэндзлі – ледзь відно.

Хістаючыся ціха ў небе
Малююць завіточкі хмар;
І вымалёўваюць, як лепей,
Іх пульхны і хмурлівы твар.

Чупрына – месцамі сівая,
А месцамі – бы свежы дым.
І постаць – гэткая жывая!
На зайдрасць будзе маладым.

І колькі соснаў – столькі пэндзляў,

І столькі бачыцца карцін.
Але на кожнай ставіць вэнзель
Сааўтар-вецер, ён адзін.

**Сасонкі**

Блукаю з кошыкам па лесе
Сярод сасновай грамады,
А вецер вар’яцее ўверсе,
Шуміць, гудзе на ўсе лады.

Як маятнікі, верхавіны
З размаху б’юць па днішчы хмар.
І непагадзь ізноў лавінай
На лес кідае свой цяжар.

І раптам стогн пачуўся ў соснах,
Лес агарнуў перапалох:
Адной сасонцы стала млосна,
Зямля паехала з-пад ног.

І можа ўпала б… Ды сяброўка,–
Здзівіўся вецер-ліхадзей,–
Яе падхоплівае лоўка
І прытуляе да грудзей,

Не даўшы ўпасці і разбіцца,

І гніць на зломаных суках…
Так і стаяць удзвюх сястрыцы,
Адна з другою на руках.

То сумную спяваюць песню,
То чуецца сумесны ўздых…
І ўсе, хто стрэне іх у лесе,
Спагадліва глядзіць на іх.

* * *

Прачнуўся ў музыцы… Ўжо восем.
Сімфонія ліецца з радыё,
І за акном смяецца восень,
На лісцях – сонейка! Так радуе!

Здаецца: голас чую зычны –
Напевы клёна-кампазітора…
Ды і ў мяне настрой музычны:
Вальсуюць на паперы літары.

А на двары – трыумф асенні:
Лістота вогненная лётае
І ўсё навокал, нават цені,
Пад ліставейнай пазалотаю.

Пад ёю і мае надзеі,
І думкі гэткія ж агністыя,

А восень шчодра сее, сее
Нам абяцанні залацістыя.

Мо вырасце калі калоссе
Такое ж яркае, як золата…
А сёння ветрык лісці косіць
Ды заграбае холадам.

Лісток, бы нотка, адлятае,
Пад клёнам – коўдра мазаічная.
Ах, восень! Ты і залатая,
Адначасова і музычная!

**Падкова шчасця**

На кожнай вуліцы вясковай,
Дзе пыл улёгся і заціх,
Прасвечваецца след падковы
Адважных прадзедаў маіх.

Ад баразны, ад родных гоняў
Па лесе, полі – напрасцяк
Імчала конная пагоня,
Наперадзе – ліцвінскі сцяг!

І раптам прашчур мой бадзёры
На разгарачаным кані

Ўзляцеў увысь і мчыць да зораў…
А ну, хто смелы,– дагані!

І толькі яскі вылятаюць
З-пад хуткіх вогненных падкоў.
І Млечны Шлях аж усцілаюць,
І цемру стынучых вякоў.

А конь той срэбнаю падковай
Звінеў і біў, звінеў і біў,
І ў небе зорным выпадкова
Яе, бліскучую, згубіў.

Вісіць яна ля Млечнай аркі,
Срабрысты бляск яе не згас…
І сёння маладзік той яркі –
Падкова шчасця для ўсіх нас.

**Вятры, вятры…**

Не помню я, з якой пары
Няспыннай хваляй зухаватай
Шумяць вятры, гудуць вятры
Па-над старою нашай хатай.

То з захаду яны з-пад хмар
Вадой струменяць проста ў вокны,

І поле наша – о кашмар! –
Нібы ў слязах уласных мокне.

А то ўрываюцца вятры
Узбунтаваныя, з усходу,
Памнуць, пакосяць без пары
Ледзь зарунелыя усходы.

Ці раптам сівер прыляціць
І мы ад інею сівеем…
Ці поле зжоўкне, затрымціць
Пад ненажэрным сухавеем.

Нямала шчэ другіх падзей
У нас раздуе вецер гонкі…
Ды ўсё ярчэй агнём надзей,
Гарэць рабінавыя гронкі!

## Наша маці

Віхураць думкі ў жалі вострым,
І боль душу мне раздзірае…
Перад сабою бачу постаць –
Жанчына кволая, старая.

Сагнутая пад ціскам ветру,
Як бы вага яго без меры,

Ў бясколерным зямлістым швэдры
І твар такі ж гранітна-шэры.

А вочы! Выцвілыя вочы!
І рукі ў зморшчынах ад працы.
Стаіць, бы помнік той сірочы...
Правобраз Беларусі-маці.

О дзе ж, дарослыя вы дзеці,
Як з вамі сувязі наладзіць?
Ну, як на вас ёй паглядзецi,
Хаця б разок ізноў пагладзіць?

Хапіла б тут піцця і ежы,
Дык вам давай чагосьці болей.
То ў горадзе, а то ў замежжы
Шукаеце ўсё лепшай долі.

Старэйшаму давай уладу,
Малодшы марыць аб багацці…
А ў маці – ніякога ладу.
Застаўся сум адзін у маці.

…Пучок пятрушкі. Пук цыбулі.
Не кпіце, людзечкі, не кпіце.
У беднай змучанай бабулі
Купіце што-нішто, купіце!

* * *

*Прысвячаецца маладой невядомай паэтцы*
*Лесі Беларусцы (Ларысе Пятроўне Марозавай),*
*якая загінула ў Гулагаўскім лагеры “Эльген” (Мёртвы)*
*13.01.48 г..*
*(Гл. часопіс “Алеся” № 1 – 1998г.)*

“Ага! Дык ты складаеш вершы!
Яшчэ й на беларускай мове!
То, значыць, вораг ты найпершы…
Відаць, з нацдэмаўцамі ў змове.

Таму, мо люба ці не люба,
Бяры харчы, бяры ватоўку –
Збірайся ехаць пасля шлюбу
Яшчэ ў “вясельную вандроўку”.

І звезлі з матчынага кута
Туды, дзе змерзла нават сопка…
Глядзяць спалохана якуты,
Ад страху моляцца таропка.

Рыпіць самота ў снезе хрустка,
Туга з’ядналася з пургою…
Не змоўкла Леся Беларуска,
Гаворыць вершамі з тайгою.

Але тайга журбу не здыме,

Бо і сама замерла ў скрусе…
Душою Леся на радзіме
І думкі там, у Беларусі.

… Няма ўжо Лесі… І двухтомнік
Яе таксама знік у Лету,
Давайце, ўсё ж, паставім помнік
Мы невядомаму паэту,
Як невядомаму салдату…
Без прозвішча, без пэўнай даты…

**Ружы на стале**

За калючым дротам –
Воля і прасцяг.
Кінуцца б, а потым –
Хоць глыток жыцця!

Каб хутчэй на волю,
Каб хутчэй адсюль...
Ды такая доля:
Не ўцячы з-пад куль.

Але вось на дроце
Нейчы цень узнік…
На апошняй ноце
Сціх апошні ўскрык.

І… адно застаўся
Трапяткі шматок…
Я паўзком прабраўся
І ад смерці ўцёк.

За гады свабоды
Згніў той дрот, але
У мяне заўсёды
Ружы на стале,

Быццам дрот калючы
І ў крыві шматок –
Успамін балючы
Пра рашучы крок…

* * *

Высакародныя мужы…
Зямелькі беларускай дзеці…
О, Божачка, чаму, скажы,
Яны раскіданы па свеце?

Хто нашу еднасць загубіў
І абыякавасць пасеяў?
Міцкевіч Польшчу палюбіў,
А Дастаеўскі – дык Расею.

Змагар, вучоны і герой
Дамейка ў Чылі быў узняты...
Сікорскі верталётны рой
Стварыў для большай моцы Штатаў.

Няма бярлінскае сцяны
На нашай мытні і сягоння.
І беларускія сыны
З-пад Прыпяці і з Панямоння

Знайсці імкнуцца за мяжой
І шчасця крышачку, і працы
І нават на зямлі чужой
Згадзіліся б навек застацца.

Бацькоўскі край, радзімы кут!
Мае палі, мае бярозы!..
Ды хіба не патрэбен тут
Адважны дух і моцны розум?

**Чэргі**

У старажытнасці далёкай,
Ды і ў пазнейшыя гады
Пра іх нат не было намёку,
Нат не ўяўлялі іх тады.

А сёння гэтая пачвара,
Да крам, да мытняў паўзучы,
Хапае лепшыя тавары,
З'ядае лепшыя харчы.

Яшчэ і вэрхал узнімае,
І выгінаецца дугой…
Няшчасны той, хто справу мае
З неўтаймаванаю чаргой.

Страшэнная чарга пад свята
І хвост – ого які даўгі!
Але чарга, што… з аўтамата…
Няма страшнейшае чаргі!

**Во дзе дружба!**

Ягады шукаю ў лесе,
Павуціна – ў твар мне.
Раптам нешта ў лоб як трэсне!
Як у вуха жарне!

Мігам я назад адрынуў,
Ды было ўжо позна…
Нешта ўскочыла ў чупрыну,
Завішчала млосна.

*Святліца*

І са мной адразу – ў бойку.
Гэтак напужала!
Плясь яго! І тут жа войкнуў –
Упілося джала.

Трапячуся, як у сетцы,
І трасу валоссем…
Тут яшче адно нясецца –
Ў карак упілося.

Трэцця пячэ ўжо ў локаць,
Іншыя – у шчокі.
Я не паспяваю войкаць,
Кінуўся наўцёкі.

А за мной услед – пагоня,
Чую гуд наўкола…
Скураю адчуў сягоння,
Што такое пчолы.

Вечна помніць буду ўкусы,
Вольных пчол адметнасць.
Гэта вам не беларусы!..
Во дзе дружба, еднасць!

* * *

Слава Богу! Адбылося!
Неба зноў надзеі трусіць.
І вось дар Вякоў і Лёсу –
Незалежнасць Беларусі!

Без крыві і разбурэння
Адбылася заваёва.
Час набытку і стварэння,
Адраджэння роднай мовы!

Але вецер злосна свішча,
Раздзімае зноў старое.
Раздзімае папялішчы –
Можа ўспыхне дзе якое.

І маланкі і пажары –
Гэта ўжо было! Даволі!
Што збудуем на абшары,
Дзе рассеецца вуголле?

Сёння на ахвярнай горцы
Хай гарыць агонь Свабоды!
Чалавек народжан творцам,
Быць яму такім заўсёды!

*Святліца*



***Іван Лагвіновіч***

## Акрасанет

І да мяне наведваецца Муза,
Выводзіць з меланхоліі душу.
Апанаваны роздумам, пішу
Натхнёны верш пра долю беларуса.

Лаўлю былых гадоў, стагоддзяў шум,
Адкопваю засыпанае друзам.
Гратэскавых імперый і саюзаў
Вяду разбор, маральны суд вяршу.
Ідыліям лагоднага жыцця
Не шмат адмерана ў мінулым часу.
О мой народ! Дапі цярпення чашу,
Вазьмі свой меч зазубраны і сцяг,
І шчыт вазьмі з выяваю Пагоні –
Чакаюць змагароў за волю коні!

## Каляровыя сны

Я тады толькі бачу
каляровыя сны,
калі часам прысніцца
родны край незабыты,
светлай памяці хутар,
рай часовы зямны,
ручнікамі чаромхаў
і бяроз апавіты.

Там сунічны, брусн ічны
ці малінавы дзень,
і не проста клякоча –
Богу моліцца бусел.
Для мяне толькі там
кветка шчасця цвіце –
на грудку неўзараным,
на някошаным лузе.

## Брыдуць дубы

З вачамі, поўнымі журбы,
але без слёз – сухімі,
брыдуць няшчасныя дубы –
знямелыя, глухія.
Няма каму распавядаць,

няма каго ім слухаць.
Цячэ бяда, а не вада,
ляжыць на сэрцы скруха.

Брыдуць… Іх падганяе час
да чорнае дарогі,
а на нагах і на плячах –
атрутны пыл эпохі.

## Цярновы вянок

Над цішай нямых
вечароў і світанкаў,
над травамі
ў радыяцыйнай расе
цярновы вянок
апусцелай буслянкі
за ўсіх вінаватых
дуб-волат нясе.

## Чорная дарога

Ля чорнай дарогі быў
і бачыў сляды пачвары.
З цяжарнае смогам хмары
на дол церусіўся пыл.

Асунуўся хісткі дах
з нямоглых плячэй будынка.
У вокнах – зяўрастых дзірках –
завяз набрыnялы жах.
Трымцелі на скразняках
шкілеты скалелых дрэваў,
і прывід прамаці Евы
між чорных ствалоў блукаў.

**Нацыянальны сорам**

Не ганаруся я і не саромлюся,
што мне было наканавана лёсам
у адпаведны час на свет з’явіцца
без дапамогі акушэрскай службы
ў сялянскай хаце з саламяным дахам,
з нішчымніцай заўсёднай на стале,
і што сярод маіх сумленных продкаў
князёў вялікіх, графаў знакамітых
і нават шляхты дробнай не было.

А вось, калі пішу на роднай мове
і слоў, забытых намі, так бракуе,
мне хочацца ад сораму заплакаць,
згарэць ці праваліцца скрозь зямлю.

**Эпіцэнтр пакуты**

Верай, мовай, Радзімай
з года ў год гандлявалі,
прадавалі сумленне
за кусок каўбасы,–
і атрутныя росы
божай карай упалі
на азёры і рэкі,
на палі і лясы.

Колькі тут развялося
святатацщаў, манкуртаў,
разумовых, духоўных
пачуццёвых калек!..
Край палескі абраў Бог
эпіцэнтрам пакуты,–
не змяшчаўся ўжо ўзровень
грэшных спраў на шкале.

* * *

Прарокам быць я не бяруся,
а проста хочацца сказаць:
грэх беларусу з беларусам
на іншай мове размаўляць.
“Вясёлка”, “весніцы” і “вёска” –
даўно не чую гэтых слоў.

Хто нашу моўную палоску
так вынішчальна прапалоў?
Шчыруюць невукі і снобы.
Вакол – чужы крыкунскі спеў.
Не ацвярэзіў і Чарнобыль.
А ён жа, людцы,– Божы гнеў!
Бязмоўны і безабаронны,
пад ногі кінуўшы свой сцяг,
народ наш дзесяцімільённы
стаіць над прорвай забыцця.

## Дзівакі

На світанку філосаф-дзівак Дыяген
з перакуленай бочкі вылазіў.
І па вуліцах людных хадзіў з ліхтаром –
у натоўпе шукаў чалавека.
Я, напэўна, не меншы сучасны дзівак:
на вяселлях, у крамавых чэргах
назіральна-падслухвальны пошук вяду
беларуса сярод беларусаў.

* * *

Апоўначы трывожна прахапіўся
і подбегам – адразу ж да акна:
мне падалося, недзе нешта грымнула,

ды так, што здрыганулася зямля.
Ачомаўся крыху і зразумеў:
у краі тым, дзе след мой зарастае,
за многа гарадоў адсюль і вёсак
на дол упала з коміна цагліна –
бацькоўская развальваецца хата.

## Вышывала Марыся ручнік

Дзеразовы вяночак Мырыся спляла,
на галоўку каронай князёўны надзела,
сок бруснічны з высокае шклянкі піла,
вышывала ручнік, на дарогу глядзела.

Над канавай кудзеліўся нізкі туман,
і травінкі сям-там вытыркалі кастрыцай.
Трэці тыдзень жаданага госця няма...
Дакараюць браты, упікае сястрыца.

Бацька з маткаю ў вочы адно аднаму
не глядзяць, не вячэраюць, журныя, разам.
Пасылалі разведаць суседку-куму.
Толькі лепей не чулі б такога адказу.

Датлявалі кастрычніка золкія дні,
плаўкім золатам з клёнаў лістота сцякала...
Вышывала Марыся кужэльны ручнік
і мяне са сватамі дарэмна чакала.

## Дарога на хутар

На той дарозе, што вяла на хутар,
цяпер буяе дзікая трава.
У ёй гніе вяровачнае пута,
і вузел – бы ў вужакі галава.

Да ціхіх зорак адляцелі ў неба
вясельны спеў і пахавальны плач.
Мне кажуць, сумаваць аб тым не трэба:
у нас па смутку выкананы план.

А я травы той жорсткай, не мурожнай,
наскуб нязграбна – да грудзей тулю.
Зрабілася і млосна і трывожна:
баюся – сэрца ў скрусе апалю.

Сагнаны лёсам з хутара ляснога,
прытулку ў свеце так і не знайшоў.
Напрыканцы быцця свайго зямнога
сюды вярнуўся з хвораю душой.

## На сенажаці

Лёг на мулкае ложа пракоса,
ад сляпня адмахнуўся нагой.
Добра тут, дзе буслы і бярозы

на ахове спакою майго!

Адпачну і, раскінуўшы рукі,
патушу ва ўсім целе пажар.
Аднастайныя, рэзкія рухі
прытамілі мяне не на жарт.

Звон у скронях працягла-высокі,
пот казыча паверхню павек.
Кашаніна на сонейку сохне,
абсыхае і сам чалавек.

Адпачыўшы, калі пастараца,
дакашу да прырэчных кустоў.
Тут узнімецца помнікам працы
варты гонару велічны стог!

**Хутаранка**

За чыстым полем, за цёмным лесам,
за невысокаю горой
на хутарочку жыве Алеся
з катом, сабакам і козой.

Жанчына дровы ў радзюжцы носіць,
траву на сена сярпочкам жне.

Ляснік тамтэйшы ёй хлеб прывозіць –
хоць раз на тыдні, а зазірне.

Слупоў і дроту пашкадавалі –
ёй электрычнасць не правялі.
Б’е ў вокны пушча зялёнай хваляй,
звілі ў застрэшку гняздо чмялі.

Хацелі ў горад забраць Алесю.
Яна сказала рашуча: “Не!
Не пражыву я трох дзён без лесу.
І адчапіцеся ад мяне.”

**Настальгія**

Над вечнай дарогай
юдолі зямной
плыў зораны вечар.
Хусцінкаю-воблачкам
лоб выціраў
здарожаны Месяц.
Расліны пілі
сырадой тумаў
з далонек лісточкаў.
На вузкім падворку
калгаснік-цыган
распальваў касцёр
і плакаў.

*Святліца*

**Памірае паэт**

Памірае паэт.
Пры дарозе ў кустах памірае.
Два анёлы ляцяць на святло пакаяннай душы.
Небны колер вачэй пуцявіннем сухім выгарае.
І не мроіцца муза, а бачацца толькі крыжы.

Адступае жыццё, адыходзіць…
Не, не – адлятае!
Разам з буслікам белым
над лотаццю даўняй вясны.
Яго славы нягучнай
крушынавы куст аблятае.
А лаўровы вянок
ён не бачыў і нават не сніў.

Памірае паэт.
Беспрытульны, самотны, гаротны…
Добра, хоць не ў канаве,
а тут, на мурожным грудку.
Чалавек для трохсот
геніяльным ён быў і народным,
для астатніх мільёнаў,–
як кажуць, ні сват і ні кум.

Нарадзіцца б яму
армянінам, эстонцам, карэйцам,

акружалі б цяпер
не самлелыя ў спёку кусты…
Спачувальна-жалобна
ўздыхне нахілёнае дрэўца
і замест медзякоў
пакладзе на павекі лісты.

На радзімай зямлі
бы чужынец які памірае.
Пэўна, доля ў паэта такая:
турма ці сума.
А навокал зямля выгарае.
Нас неба карае!
І нідзе паратунку
ад пошасці-згубы няма.

* * *

Лебядзіцца поле,
луг палыніцца,
аж па пояс плоту –
крапіва.

Вербіцца туга,
журба крушыніцца,
снежна чарамшыцца
галава.

Жалю кацянё
да сэрца лашчыцца,
засціць сонца
дым чужых кастроў.

Млосна…
Не спяваецца,
не плачацца.
На нулі
трапечацца настрой.

**Ад сябе ўцякаю**

Касмылі халоднай цемры
навісаюць з хмар.
Ад уяўных колкіх церняў
закрываю твар.

Думкі змрочныя раяцца
ў тлумнай галаве.
Зайцы, чэрці ці паяцы
скачуць на траве?

І наогул, што за дрэва
на маім шляху?
Абысці яго мне трэба,
але не магу.

Фу, ты, ну, ты! Корань гнуты
абхапіў ступню.
За збавенне ад пакуты
пакланіўся пню.

У такую ноч і воран
не ўзмахне крылом,
надалей закляты вораг
прыхавае зло.

А навошта мне бадзяцца,
бегчы ад людзей?
Ад сябе хачу схавацца,
ды не знаю, дзе.

**Пілігрым**

Завіруха. Поле. Ноч.
Падарожнік адзінокі.
Ледзянога ветру нож
так балюча рэжа шчокі.

Згаслі зоркі і агні.
Гасне кволая надзея.
Аднаколерны ручнік
тчэ навобмацкі завея.

Свет раз’юшаны раве,
выклікае з пекла здані.
Адзінокі чалавек –
уцякач альбо выгнанннік

даграбецца да мяжы,
наліп з вопраткі абтрусіць...
Міласэрны, памажы
пілігрыму Беларусі.

* * *

Халодныя вочы кастрычніцкай ночы,
навошта мяне вы хацелі сурочыць?
Ад сонца і кветак мінулага лета
душа яшчэ высветлена і сагрэта.
Грудок зелянее, і неба сінее,
азімае жыта так міла рунее.
Апошні лісточак на золкі пясочак
з галінкі не збіў маразоў малаточак.
Яшчэ я ахвочы да песень дзявочых,–
не трэба заўчасна маркоту прарочыць.

**На мове трынь-брынь**

Дождж плача на вулічных лаўках.
Не з радасных выдаўся дзень.

Сяброўка мая балалайка,
цябе прыгарну да грудзей.

Даволі табе ў футурале
між струн фільтраваць цішыню!
Трэмолістых гукаў каралі
падорым аздобаю дню.

Паклічам з мінулага песню,
успомнім дыез і бемоль.
У сэрцы надзея ўваскрэсне,
адступяцца нэндза і боль.

Бяды той, што дождж несціханы,
і ў госці не ходзяць сябры!..
Я буду з табою, каханай,
на мове трынь-брынь гаварыць.

## Бяроза

Без лісця аднолькава шэрыя дрэвы.
Адразу не скеміш, дзе ясень, дзе клён.
І толькі бяроза, мая каралева,
адвесіць здалёк прывітальны паклон.

Праменіцца ціхае, чыстае ззянне
лагоднай усмешкай, святлом навізны.

І кожнае новае з ёю расстанне
на скроні мае дадае сівізны.

## Чарадзей перадзім'я

У пахмурны кастрычніцкі дзень,
натаміўшыся ў доўгай хадзе
(шчэ знаходзіў грыбы дзе-нідзе),
прыпыніўся на выспе-градзе.

Басам вецер у кронах гудзеў;
і лісток, што зжаўцеў, ззалацеў,–
не хацеў ён таго ці хацеў –
мне пад ногі з галінкі ляцеў.

Я, паставіўшы кошык, глядзеў,
як упэўнена лесам ідзе –
па пяску, па траве, па вадзе –
перадзім'я вядзьмак-чарадзей.

Павуцінкі ў яго барадзе;
ён слату за сабою вядзе
і, каб сталі крыху саладзей,
іней на журавіны кладзе.

**Дзверы**

Дзверы маёй кватэры
кшталту хрушчоўскай эры –
з дошак і спецфанеры –
вочкам глядзяць з даверам.

Іх абмінулі страсці,
і рабаўнік, на шчасце,
не спрабаваў напасці.
Што ён тут мог украсці?!

Пару дзесяткаў кніжак?
Некалькі місак, лыжак?
Котку, што костку ліжа?
Ці чаравікі-лыжы?

Думак маіх хімеры,
што давяраў паперы,
побыт сірочы шэры
аберагаюць дзверы.

**На вуліцу не хочацца...**

Сіняваты змрок за вокнамі
з дрэвамі наскрозь прамоклымі,
з небяспечнымі дарогамі,

нечаканымі трывогамі,
з інтрыгуючымі тайнамі,
з лавеласамі, путанамі,
з пустадомкамі нябрытымі
і адпетымі бандытамі,
з міліцэйскімі, вайсковымі
патрулямі рызыковымі...
Мне на вуліцу не хочацца:
чысціня душы азмрочыцца.

**У зімовым парку**

Зімовы парк мяне сустрэў
адкрытасцю безабароннай.
На шэрым фоне ў кронах дрэў
чарнеюць кляксамі вароны.

Усюды золкія вятры
злізалі снег і агалілі
струпы, маршчыны на кары,
мох лішаю, кудзелю цвілі.

Непаўнацэнная зіма
і ў гэтым выдалася годзе:
адліга слотная, туман,
дамовіўшыся, побач ходзяць.

Крыху быў снежань пасняжыў,
але студзіць не ўзяўся студзень;
і снег падоўгу не ляжыць –
не хоча ён валяцца ў брудзе.

На схіле выхаднога дня –
ні дзетак, ні пенсіянераў.
Сабак шматлікая гайня
абрала парк сваім вальерам.

* * *

Тры дні адліга ледзяшы смактала.
Ад падаючых кропель дол звінеў.
Бы ласы кот разлітую смятану,
туман злізаў зляжалы рыхлы снег.

І яшчаркі віхлястых ручаёчкаў
да Шчары падаліся нацянькі.
Паміж сабою ў паркавым лясочку
"кватэры" размяркоўваюць шпакі.

* * *

На паліняльх тратуарах,
дажджамі мытых, снегам пудраных,
мяне сустрэне хутка старасць –
такая ветлівая, мудрая.

Прыязна скажа: “Я з табою
ад сёння і да часу суднага:
звыкайся з немаччу і болем,
забудзь забавы, сходкі людныя”.

Не будзе болей светлых заўтра...
З крыніц жыцця не піць напоўніцу...
Кіёчак стане верным сябрам,
на скверы ліпа – палюбоўніцай.

**Набытак**

За дзяцінства нішчымнае ў зрэб’і,
за юнацтва ў слаце ды бядзе
атрымаў кампенсацыю срэбрам –
вось яно: сівізна ў барадзе.
Шчыраваў і з рыдлёўкай, і з молатам,
стаў багатым на беднай зямлі:
самародкамі чыстага золата –
на далонях маіх мазалі.

**Данбасу**

“Бывай” не скажу, прахрыплю “да сустрэчы”,
мой зорны, мажорны, смуглявы Данбас.

Прызнанне такое было б недарэчным,
але развітальны наблізіўся час.

Рукой памахаю з прыступкі вагона,
на поўнач памчыць пасажырскі састаў.
Згадаецца песня пра лёс канагона,
якога я ў шахце ў свой час не застаў.

Згадаюцца брэмсбергі, квершлагі, штрэкі,
мурзатыя твары брыгадных сяброў...
І будуць звінець пад вагонамі рэйкі
трасамі напятымі шахтных капроў.

Я вытру цвярозыя шчырыя слёзы
і толькі тады адыду ад акна.
У лёгкіх твой вугальны пыл антракозам
насіць мне цяпер да магільнага дна!

**Разлукі выраёвыя**

**1**

Я разумеў: з балотнай купіны
не зазірнуць за гарызонт.
І вось – білет жаданы куплены,
стаў яваю прыгожы сон.

Я еду, матчынай малітваю
расчулены ў расстайны час,

вагон уздрыгвае, парыпвае, –
цягнік імчыць мяне ў Данбас.

Ляжыць нячытанаю кнігаю
перада мною новы свет.
Душа адно лісточкам фігавым
прыкрыта ад магчымых бед.

Дарогу дальнюю, разлучніцу,
не вінавачу, не кляну:
пакінуў хату не ў наручніках,
і не прызвалі на вайну.

**2**
Данбас маёй другой радзімаю
стаў аж на трыццаць тры гады.
Сяброў-шахцёраў пабрацімамі
з любоўю называў тады.

Жыў не скажу, што прыпяваючы,
бо шахта ўсё-такі не склеп,
ды, чорны вугаль здабываючы,
я зарабляў на белы хлеб.

Былі сустрэчы нечаканыя
ў вірлівым рэчышчы падзей:
аднойчы праваруч Стаханава
ў прэзідыуме я сядзеў.

Спазнаў і радасці, і горасці…
Скажу без ценю пахвальбы:
і як паэт у слынным горадзе
не на апошнім месцы быў.

**3**
Жыццё маё здаецца песняю,
што праспяваю адзін раз.
За годам год – і я на пенсіі.
Вяртацца ў край лясоў пара!

Лагодным садам абрыкосавым,
шахцерскай зоркай над капром
дабраславіў Тарэз, каб лёсіла
ля Белай вежы, за Дняпром.

Са мною дзеці пагадзіліся –
сын і замужняя дачка:
жыць трэба там, дзе нарадзіліся,
і кветку-папараць шукаць.

Даволі людзям быць бадзягамі,
па дзве, па тры радзімы мець:
разлукі выраю працяглыя
таксама набліжаюць смерць.

**4**
Вярнуўся я. Пад ручкі з восенню

іду ў мінулыя гады.
Не зараслі, не зніклі – вось яны! –
дзяцінства дробныя сляды.

На згадцы – толькі ўсё харошае.
Паклон – і дрэву, і карчу.
Азмрочваць край слязой няпрошанай
у дзень вяртання не хачу.

Зямлю святую, запаветную
манкурцтвам не аганьбаваў.
Апалы ліст кляновы ветлівы
мяне ў шчаку пацалаваў.

Хачу пагаварыць з матуляю –
маўчыць магільная пліта...
Сыноўскі верш, што ў сэрцы муляе,
ёй пры жыцці не прачытаў.

## Шахцёрскія ўспаміны

Не здабываў шчаслівай долі,
а проста вугаль здабываў.
На кайназойскім чорным полі
прыспеў, як кажуць, час жніва.

Аб'явы ў шахту запрашалі,

Данбас рэкордамі грымеў.
Тады гарняк быў у пашане,
хоць грошай не багата меў.

І ў антрацытавым калоссі
над кожным зернем – асцюкі...
Ой, колькі поту пралілося!...
Падумаць страшна, мужыкі.

Была і кроў. Але аб гэтым
не варта ў вершах гаварыць.
Спускаўся ў шахту я паэтам,
каб там не "ўкалваць", а тварыць!

Не знаю, што мы будавалі:
сацыялізм ці камунізм,–
мы працавалі, план давалі,
свае запальвалі агні!

Цяжэйшай і бруднейшай працы
сам чорт прыдумаць бы не змог.
І ў лазні трэ было старацца,
каб з цела змыць ліпучы смог.

А ў сэрцы – радасці прылівы.
Цяпер здзіўляюся і сам:
які я быў тады шчаслівы,
якія вершы я пісаў!

*Святліца*

Так, так! Не ўсё былое злое,
не ўсё нагамі дагары.
Даўно запаленая мною,
дагэтуль зорачка гарыць!

***Гумар***

**Прыстасаванец**

У Канторскіх Ціхіх Штатах
бюракратаў забагата.
І пры скарачэнні штата
адфутболілі Ігната.
Зараз ён па цэху ходзіць,
эканоміку мацуе!
Што ён робіць на заводзе?
Робіць выгляд, што працуе.

**Зацяглы магарыч**

У мінулым лістападзе
сват Паўлюк упаў з хлява.
Падрадзіўся ў яго хаце
Хведар вокны кітаваць.
Ён адмовіўся ад платы:

– Я, браток,– за магарыч.
Тыдні тры хадзіў да свата:
– Патушы – нутро гарыць!

**Патлумачыў**

– Паслухай, хто такі Сакрат? –
Лявон пытаецца ў Антона.
– Каб не схлусіць, здаецца, брат
Эўкліда ці таго Платона...
– Ну, ты даеш! А хто ж – яны?
Пра кожнага скажы хоць трохі.
– А што казаць? – Балбатуны!
На шчасце, з іншае эпохі.

**Спявак-няўдаха**

Грак аб чорны свой пінжак
выцер слёзы з дзюбы
і паскардзіўся, бядак,
на нядолю-згубу:
– На канцэрце – зноў правал:
тупат, свіст шалёны...
А вучыўся ж я спяваць
у самой Вар-роны!

**Адказ выдатніцы**

На вялікім перапынку
за плячук схапіў Пятрок
першакласніцу Марынку
і адвёў з праходу ўбок.

Даў спачатку дзве цукеркі,
каб згаворлівай была,
а тады ўжо і паперку
на далоньку ёй паклаў.

Нахіліўся хлопец нізка,
прашаптаў такі наказ:
– Аднясі маю запіску
Крэўскай Яні ў восьмы клас!

Праз якія тры хвіліны,
як на ўрок звінеў званок,
ад выдатніцы Яніны
атрымаў адказ Пятрок.

Раскруціў сувойчык-стужку,
асцярожна распрастаў…
Пачытаў – нібыта юшкі
горкай-горкай паспытаў.

“Выкінь з галавы апілкі,
каб мазгам святлей было,
а то робіш дзве памылкі
ў сказе з трох кароткіх слоў”.

**Маці не вінаватая**

Пагартаўшы Пецеў дзённік,
спахмурнеў настаўнік:
– Я не бачу тую “двойку”,
што раней паставіў.
Сем на восем не памножыш,
а ўжо робіш шкоду.
Давядзецца тваю маці
выклікаць у школу.

Хлопчык востры падбародак
да грудзей прыціснуў,
пачасаў за правым вухам,
тройчы носам свіснуў:
– Турбаваць не трэба маму,
бо не вінавата:
яшчэ ўлетку выйшла замуж,
і жыву я з татам.



*Марк Ланцман*

## Радзіма-маці

Край бяроз, бароў сасновых,
Старажытных пушчаў!
Мы завем цябе з любоўю
Роднай Беларуссю.
Ад чаго ты пабялела:
Ад вятроў, ад сонца,
Ад бяды што заглядала
Ў вокны і ваконцы?
Колькі іх, чынгісаў розных,
Праглі цябе знішчыць!..
Збажыну тваю таптала
Крыжакі, фашысты…
Вые бура, завывае
Над табой, старонка,
То чарнобыльскай бядою,
То ліхой паводкай.
Здзекаў шмат перацярпела

Ў сваёй мірнай хаце,
Але сэрцам не счарсцвела
Ты, Радзіма-маці!
У далонях працавітых
Серп і меч сціскала,
Клічам волі паспаліты
Люд свой узнімала.
Хіба ж гэтага вось Краю
Можна адцурацца,
Дзе нас навучаў Купала
Людзьмі ў свеце звацца?!

**Шчымлівае**

У ціхі час на лаве запаветнай
Намацваем знаёмых слоў рады –
І пад уплывам успамінаў светлых
Уваскрасаюць даўнія гады.

**Не звыкайцеся з бядою**

Нас памяць перасцерагае
І павучае з году ў год:
Калі суседа хтось чапае
Ці абражае ўвесь народ,
Каб не звыкаліся з бядою

*Святліца*

На Богам дадзенай зямлі,
А ў бой з варожаю ардою
за родны вольны Край ішлі.

## Калі б я меў…

*Каб меў я залатыя горы...*
*З песні.*

Калі б я меў багацця горы,
То так аддзячыў бы свой лёс:
Усё раздаў бы дзецям, хворым,
Каб не было на свеце слёз.
Калі б я меў гарэлкі мора,
Ніколі б сам з яго не піў.
Сабраў бы ўсё людское гора –
І ў гэтым моры утапіў.

## Байка пра варону

Варона, калі ў комін заглядае,
Пра вашу печ ні кропелькі не дбае.
Яе зусім, паверце, не цікавіць,
Мачанка там гатуецца ці кава…
Бо думка процілеглая жыве
У ейнай хітрамудрай галаве.

Прыкідвае яна разоў мо сто,
Як лепей звіць у коміне гняздо.
Ці будзе даспадобы тая хатка
Яе малым, пісклявым птушаняткам.
Яшчэ яе турбуе і клапоціць,
Каб не залез сюды гарэза-коцік.
Здаецца, ўсё задумана выдатна:
Утульна будзе, цёпла вараняткам!
Варона ж не даўмеецца ніколі,
Якая іх чакае злая доля.

Калі малыя рэкі мы спрамляем,
Спрадвечныя балоты асушаем,
Нам трэба, каб з бядой не сустракацца,
На гэтую Варону азірацца.

## Непатрэбны “тавар”

Зараз лёгка можна збыць
Зёлкі, ягады, грыбы…
Попыт ёсць на дзеразу,
На балотнюю лазу.
Можна ракаў налавіць –
І на гэтым зарабіць.
Купяць яшчарку, вужа,
Жабку, п’яўку і смаўжа.
Ды няма пакупнікоў –
Каларадскіх збыць жукоў.

*Святліца*

## Ода печы

Хіба мне хто асмеліцца пярэчыць,
Што нельга адарваць вачэй ад печы,
Як парыцца на прыпеку капуста,
Прыпекаецца бульбачка да хрусту,
Альбо пад вогненным яе языкам
Блін пачынае похкаць, пухкаць, пыхкаць.
Пацягнеш носам той цудоўны пах –
Усмешка расквітнее на губах.
І ўзімку, як прастудзішся, найперш
Кідай усё і лезь хутчэй на печ.
Прагрэеш скуру, косці ды вантробы –
Забудзешся на ўсе свае хваробы.

Таму скажу, сябры, такую рэч:
Шануйце, як і жонку, вашу печ!

## Напрадвесні

Як прыгожа на прадвесні ў лесе!
На прыгрэве адтае зямля.
Да цяпла, святла травінкі лезуць –
Дружная зялёная сям’я!
Коцікі на вербавых галінках –
У пяшчотным жоўценькім пушку.

А ў лагчыне побач, пад ялінкай,
Спіць зіма ў куртатым кажушку.
Урачыстае вакол чаканне
Перамены значнай у жыцці –
Яркага прыроды красавання,
Што вось-вось павінна надысці.

**На прызбе**

Рыпяць вазы пад цёплым паркім гноем,
Кладзецца роўна ўзняты плугам пласт.
Абуджанае подыхам вясновым,
Пне парасткі насенне да цяпла.
Сяджу на прызбе з даўнімі сябрамі.
Ад цыгарэт уверх плывуць дымкі.
Трасем рэдкавалосымі чубамі:
Вясну не нам прынеслі жаўрукі.
Няўмольны час пазначыў беллю скроні,
Маршчынамі тугімі твары сцяў.
І я шкадую, што занадта позна
Змог зразумець сапраўдны сэнс жыцця.

**Вёска**

Кланяецца вёска кожнаму зярнятку,
Б'е паклоны бульбе, буракам, ільну.

Абтрасае росы, ходзячы за статкам,
Досвіткамі шарымі будзіць цішыню.
У мароз і спёку, пад дажджом халодным
Вёска пакідае свой адметны след.
На загартаваных працаю далонях
Цяжка падымае ўсенародны хлеб.
Пажадайце ж, людзі, добрага надвор’я,
Цёплых, жыватворных дожджыкаў зямлі,
А вяскоўцам нашым – моцнага здароўя,
Каб яны заможна, хораша жылі.



***Руслан Равяка***

## Галоўная ідэя

*Прысьвячаецца шматпакутнай тарашкевіцы...*

Чалавек, седзячы за сваім пашарпаным сталом, нешта пісаў. Сьпісаныя паперкі клаў стосам побач. Ноч паглынала ўсё навокал, і толькі ў гэтым пакоі сьвятло змагалася зь цемрай.

Нарэшце ён дапісаў апошні аркуш, адклаў яго асобна, зьняў акуляры, выключыў лямпу. Навобмацак выйшаў з пакоя, – спаць.

Аркуш, які ляжаў асобна, быў пачаткам біяграфіі пад назвай “*Я*”. Стос паперак побач аб’ядноўваўся ў адно – раман.

Але працягнем аповед пра біяграфію. Кожны разумее, што калі адна літара стаіць над тэкстам першай, то яна зьяўляецца і кіраўніком усяго твору.

Вялікая “Я” над усім аркушам паперы, а маленькія – у асобных радках і словах. Маленькія падпарадкоўваліся большым, а тыя ў сваю чаргу – вялікай, галоўнай літары.

Гэтак было заўседы, і гэтак павінна было б быць.

Галосныя на гэтым аркушы, калі не належалі да правячай клясы, усё ж такі мелі нейкія правы й вольнасьці. Зычныя былі рабамі.

Але ў гэтую ноч здарылася непапраўнае. За нейкую дробязь шараговая “Я” задушыла літару “Р”. Здаецца, што з гэтага?

Але з-за гэтага выпадку ўзьнялося паўстаньне. Незадаволеныя тыраніяю, усе літары разам узьняліся й зьнішчылі ўзурпатараў.

Пасьля, зразумела, пачалі выбіраць свой, новы ўрад. Насельніцтва аркуша лічыла, што ўсе літары павінны быць аднолькава вольныя, і таму ўрад узначалілі дзьве літары – “М” і “Ы” (Разам – МЫ). “М” была выбрана як зычны ад былое клясы прыгнечаных. А “Ы” – як галосная, але самая зьбяднелая літара.

Здаецца, тады вельмі пакрыўдзілася “Й” і разам зь лічбамі, адыйшоўшы ў кут аркуша, утварыла форт, які абвясьціла незалежным. Гэткія літары, як “Ь”, “’”, “ДЖ” і “ДЗ”, падтрымалі выбар “Й” і купкаю рушылі да незалежнага замку далучыцца да вышэйпамянёных.

Каб не дапусціць расколу, новы ўрад загадаў арыштаваць і зьнішчыць незалежнікаў. Супраць выступілі "Ў" – яны вырашылі, што гэта парушае вольнасць усіх літар.

Атрады карнікаў "К", "Р", "Н" пачалі вынішчаць незалежніцкія літары, а таксама і "Ў" – на ўсялякі выпадак .

Рэшткі ахвяр, на чале з "Ў" зьвярнуліся да галосных, просячы паратунку.

Літара "У" тайна зьвярнулася да галосных з просьбаю аб дапамозе. Тыя падтрымалі ахвяр неабгрунтаваных рэпрэсій.

Пад кіраўніцтвам "А" было атрымана некалькі перамог. Але галоўнакамандуючы зычных "С", правёўшы мабілізацыю, здолеў нанесьці некалькі адчувальных удараў па галосных.

Пачалася вялікая вайна.

Забітыя літары адразу скурчваліся, ператвараліся ў сінія чарнілныя плямы. З кожнаю атакай плямаў рабілася ўсе болей. Пасярэдзіне ліста неўзабаве ўтварылася як бы цёмнае возера.

Раман, які ляжаў побач, узьняў групу наймітаў "О", дадаў рэгулярны атрад лічбаў і паслаў іх, як міратворчыя сілы, на аркуш. Пакуль тое, стала вядома пра пермогу галосных.

Здраднікі, найміты "О" адразу ж перакінуліся на бок пераможцаў. Лічбы, ратуючыся, уцяклі ў нэйтральны, сувэрэнны форт.

*Святліца*

Пасьля працяглай і марнай асады гэтага замку галосныя рушылі на раман. Ідэя сусьветнага панаваньня галосных захапіла апошніх і ў рамане.

Зычным давялося аб'яднацца, каб не загінуць.

Бой, які пачаўся недзе а трэцяй гадзіне ночы, сьціхнуў на раніцу. На асобных аркушах рамана ўсталявалася ўлада або зычных, або галосных. Захопленыя "землі" ўмацоўваліся.

З аднаго боку "Ё", зь іншага – "Ц", як агітатары, рушылі да кнігі, што ляжала побач. Некаторым пашчасьціла прадзерціся на апошнюю старонку...

Пісьменьнік, які прачнуўшыся й пасьнедаўшы, падыйшоў да стала, зьдзіўлена войкнуў. Уся праца была зьнішчана, бы нехта патрымаў паперу ў вадзе. Чалавек паглядзеў на столь. Але ж ноччу не было дажджу.

Тое, што засталося ад твораў, за некалькі хвілін зьнішчыў агонь. Пісьменьнік, усе яшчэ разгублены, пачухаў патыліцу і, інэрцыйна ўзяўшы кнігу са стала, паклаў на кніжную паліцу. Паліц у шафе было шмат, а кніг на іх яшчэ болей. Некаторыя з гарадзкіх бібліятэк...

Здаецца, гэтак пачалася першая сусьветная вайна літар, якую людзі пазьней наракли клясавай. Пасьля былі іншыя: вайна друкаваных і пісаных рукою літар; вайна літар розных колераў (колерная), вайна нацый (лацінка супраць грэцкіх

і арабскіх); вайна кампутарная...

Я маю жаданьне апісаць іх усе ў храналягічным парадку. Ня ведаю толькі, ці кране мой твор адна з гэтых боек, але хірбццвш 1й2 яіааоюі аіааою еаіеооуою рбшмглц4т йй оотхрсіс

## Кігіканьне верабыіных дзяцей

Мы зьнішчылі храм, што стаяў на нашым шляху. Сьвятар спрабаваў было бараніць сваё мейсца працы, але мы ўтапталі яго ў бруд, і тысячы ног прайшліся па ім. На дзіва ўсім, ён здолеў узьняцца і, перапэцканны, абадраны, акрываўлены пакрочыў, кульгаючы, за намі. Ніхто яго не чапаў, бо ён быў наш!

Пасьля мы заўважылі селішча... Некалькі драўляных хатак былі спалены, палова жыхароў рушыла адразу ж моўчкі з намі, іншыя тутэйшыя засталіся на папялішчы назаўседы.

Пасьля нядоўгай аблогі адчынілася брама замку. Нас было шмат, і пабіць, панішчыць, патрушчыць старажытныя муры было няцяжка. Гаспадар умацавання са сваімі паслугачамі засталіся вісець на папругах, прывязаных да галінаў ссохлых ліпаў.

Мы прыпыніліся на сялянскіх гонях. Ноч прыйшла да нас раптоўна, і недзе патрэбна было

атуліцца ды крыху перадыхнуць. Усе харчы, захопленныя ў храме, селішчы, ды замку, тутака былі спажыты. Яшчэ адзін дзень адышоў у гісторыю, але пакінуў нам добры вынік.

Па абедзе сярод нас выявілі аднаго разумніка, што цішком займаўся апісальніцтвам нашага побыту. Дзеля гісторыі, дзеля нашага ўзвышэньня, дзеля знакамітасьці. Дзякуючы сваёй авантуры, гэты пісьменьнік спачыў у нашых страўніках разам з іншымі 34 асьветнікамі, злодзеямі, шызікамі, затойвальнікамі ўчарашняй ежы, уцекачамі, праўдашукальнікамі, заможнымі супляменьнікамі, грэшнікамі, творцамі, прайгранымі ў карты прадказальнікамі ды іншымі прыстойнымі і ня вельмі людзьмі, што туляліся з намі.

Нам не патрэбны лідары, асьвета, культура, вядомасьць. Мы не жадаем вылучацца між іншымі. Мы заўжды пасярэдзіне. Усё вышэйшае і ніжэйшае павінна зьнішчацца, бо яно супраць нас і не дзеля нас.

Мы спажываем тое, што здабудзем, цягаемся тамака, дзе не былі яшчэ, зьбіраем тых, хто далучаецца… Мы жах асьветнікаў ды высокаінтэлектуалаў! Мы жывем па свайму закону. Кожны можа ня больш, чым мы, але і ня менш. Кожны вырашае сам: з намі альбо без нас.

Мы – зьдзічэлы натоўп! Але ўжо колькі год нас не меншае – значыцца, праўда з намі!



*Тацяна Свірыдовіч*

**Восеньскі трыпціх**

**1**

Разарванае шызымі хмарамі неба,
Што змяніла свой колер пад шэрай імжой,
І вадою залітая сонная глеба
З недарэчна зялёнай апошняй травой.
Чырванеюць у сораме смутныя дрэвы,
Што пазбаўлены будуць сваіх апранах.
Развітальныя гукі, птушыныя спевы,
Грукат кропель па змоклых, самотных дамах.
Пад нагамі апалае лісце, слізгота,
Жоўта-чорна-чырвоны кілім пад вадой
Больш не вабіць вачэй, выглядае зацёрта,
Надакучыў яго раўнадушны спакой.
Засынаюць вятры за заплаканай шыбай,
Промні сонца малююць барвовы плакат,
І туга, так знаёмы нам восеньскі сімвал,
Апаноўвае тых, хто нязвыклы да страт.

**2**

Гаспадарыць над нашай краінаю восень.
Пад дажджамі гібее нядужы народ,
Бо не ведае тых ён, каго так узносіць,
Бо не хоча ён мець непатрэбных турбот.
Пад кастрычніцкім небам знямелыя людзі
Павыходзяць на вуліцы, будуць глядзець,
Як самімі сабою абраныя суддзі
Паасуджваюць нас на бязвінную смерць.
Паруйнуюць святыні, папаляць палацы,
Дзе свабода жыла, дзе любілі яе,
Зробяць з колішніх плошчаў вайсковыя пляцы
І павесяць сцягі ды партрэты свае.
У бязмоўнай краіне шарэнгі салдатаў.
У бязмоўнай краіне кіруе сам Цмок.
У бязмоўнай краіне жалезныя краты.
Там гібее жыццё за сталёвым замком.

**3**

Ну, чаму ты маўчыш? Не запальваеш свечкі?
Ў гонар восені свята ладкуем, а ты
На падлозе сядзіш ля распаленай печы.
Ты каханак былых хочаш знішчыць лісты?
Ды пакінь ты паперу! Яна ж нежывая.
Потым разам папалім свае успаміны,
А цяпер павячэраем. Я наліваю
Нам па чарцы віна – за сустрэчу мы вып’ем.
Гэта восень звяла нас, ёй трэба адзячыць.

Мы цяпер не адныя – і гэта цудоўна!
Бо самота – не лепшае выйсце з няўдачы:
Раны гояць каханнем, любоўю, сяброўствам.
Ты і я. Свечкі, водсветы, водбліскі, цені,
Шамаценне праз вокны пажоўклага лісця –
Гэта восень ціхутка стаіць на каленях
І чытае малітвы, чытае малітвы...

* * *

Уранку шпацыруем хто куды,
Чакаем на прыпынку свой аўтобус
І гвалтам праціскаемся ў паўзмрок.
Гук нашае агульнае хады
Павольна дэфармуе нам свядомасць,
І час ад часу мы губляем зрок,
І час ад часу мы губляем слых,
Не заўважаючы, чаго не хочам.
О, цуд! Сярод вачэй сляпых і злых
Аднойчы я сустрэла твае вочы –
Так ззяюць вочы толькі у святых!

Ты, пэўна, не тутэйшы – паязджанін,
Што выпадкова апынуўся тут.
Я ж бачу: не скарылі шчэ цябе,
А мы даўно зрабіліся цвікамі
Жалезнымі, каб не цярпець пакут
У хоспісе, што клічацца РБ.

* * *

Ты любіш каву –
Я люблю гарбату.
Ты пішаш прозу –
Я складаю вершы.
Ты прынцыповы –
Я – сама упартасць.
Ты дым не любіш –
Я палю няспешна.
Ты любіш белы –
Я люблю чырвоны.
Ты мкнецца да улады –
Я хачу свабоды.
Ты стаў суддзёй –
Я стала падазронай.
Ты йдзеш уверх –
Я ўніз бягу па сходах.
Ты любіш класіку –
Я Глобуса чытаю.
Ты у душы падлетак –
Я – амаль жанчына.
Кахаеш ты мяне,
Цябе я не кахаю.
Адзіны толькі мы ў адданасці Айчыне.

* * *

Стварай мяне з казак
Альбо з калыханак.

Стварай мяне смела
Штовечар, шторанак.
Стварай мяне слушна
І беспамылкова.
Стварай кожны раз
Адмыслова нанова.

* * *

Снег маскіруе вуліцы.
Светла. Святочна. Холадна.
Крочым мы, вочы прымружыўшы.
Танчыць завея над горадам.
Множацца белыя насыпы.
Брук пад сумёты хаваецца.
Быццам у кінанарысе
Дзеянне адбываецца.
Іней ахутвае позіркі.
Лёд ставіць расткі слізкія.
Учора зусім адзінокія,
Сёння мы сталі блізкімі.
Снежаньскі вецер свавольна
Снегам у твар шпурляецца.
Цёплай тваёй далоні
Рука мая давяраецца.

* * *

Табе няўтульна. Ты не можаш быць сабой.
Хоць вусны крывяцца ва ўсмешцы, ты смуткуеш.
Тваімі думкамі даўно кіруюць сум і боль.
Ты сочыш за сабой. Ты на сябе палюеш.
Твае сябры стаміліся ўздымаць табе настрой
І больш не клічуць у вячэрнюю вандроўку.
Ты апранаешся ў жалобны чорны строй,
Што так пасуе да тваіх вачэй. І зноўку
Знішчаеш колькі пачак цыгарэт штодзень,
Шчыруеш з незнаёмымі за танным півам.
І толькі ў снах адбіткі колішніх падзей
Нагадваюць, што некалі ты быў шчаслівым.
І ты абраць не можаш свой далейшы шлях
Пачаць жыццё наноў? Наноў чакаць удараў?
Ці перакрэсліць гэты свет? Ён у тваіх руках!
Ты пакідаеш на запясці бранзалеты шнараў...

## Пра дзяўчынку

Шэры дзень займаецца над горадам.
Напрасткі ідзеш, не бачыш лужынаў.
Адзінота цябе робіць мужнаю.
Кроплі рукі апякаюць холадам.
Выраз твару робіш абыякавым
І спрабуеш падавацца вольнаю,

Безтурботнаю, вясёлаю, свавольнаю,
Што з таго, што ты учора плакала?
Сум навокал кружыць-завіхаецца,
Ахінае плечы белым вэлюмам.
І адна твая самаупэўненасць –
Тое, што ніколі не губляецца.

* * *

Маці мая, Беларусь!
Зірні на дачку сваю:
На скрыжаванні стаю,
Сэрцам цябе малю.
Адкрытая ўсім вятрам,
Згубіўшая свой спакой,
Прыбраная ў шлюбны строй
Крывіцкіх сыноў сястра.
Я патанаю ў святле.
Ва ўзнёслай сваёй журбе
Я прысягаю табе
На бела-чырвоным тле.
Сэрца агнём гарыць –
Маці! Мы будзем жыць!

*Анатоль Станкевіч*



* * *

Сэрца паэта бачыць,
Радуецца і плача.
Памяць паэта з болю.
Дайце бацькоўскае поле!
Дай мне, мой родны Краю,
Чорнага хлеба акраец!
Дай мне вады напіцца
З чыстай, бруістай крыніцы!
Дай мне блакіту неба!
Болей ні-чо-га не трэба…

* * *

Мяне моцна пакрыўдзіў лёс:
Не спявала ў дзяцінстве маці
Песень на роднай мове –
Вельмі рана памерла;
Юнаком бязвусым
Жывасілам мяне пасадзілі
Ў вагон цягніка
І павезлі на Поўнач…

А цяпер папракаюць:
“Ты ж – беларус!
Чаму ты здрадзіў роднай мове?!”
Я ёй не здрадзіў.
У мяне яе адабралі…

* * *

Закавалі рачулку ў бетон –
І цяпер ёй нікуды не дзецца:
Трэба ў шэрыя пліты глядзецца,
Прымірыцца з такою бядой.

Рабаціць яе хвалі туга:
Ім чабор на пагорку сніцца,
І шумлівая ў полі пшаніца,
І з птушынымі песнямі гай…

Не магу я без болю глядзець
На рачулку без светлай гамонкі.
Як ёй хочацца зранку надзець
Спаконвечнае ўбранне ў рамонках!..

**Камень**

Тысячагоддзе сярод поля
Ляжаў вялізны камень.
На ім адпачываў крумкач.
Аб чым ён кракаў,

Ведалі зямля і неба.
Сто гадоў таму
Яго паклалі ў падмурак
Белакаменнага храма.
Ён слухаў чароўныя песні,
А ўночы згадваў крумкача…
Калі храм ператварылі
Ў зернесховішча,
Камень пакрыўся мохам.
Ён памёр.
Не так даўно
Ў храм вярнуўся Бог.
Але мёртвы камень не ажыў…

* * *

Зацвілі рамонкі ўжо,
Жыта ў полі каласіцца…
Тут такая прыгажосць:
Ёсць дзе Богу памаліцца!

* * *

Нам толькі здаецца,
Што дрэвы растуць
Самі па сабе,–
Іх даглядае зямля,
Сонца, дождж, паветра;

Птушкі іх лечаць,
Спяваюць ім песні.
Без клопату, ласкі
І дрэвы гінуць.

* * *

Настрой быў
З майскага ветру,
Квітнеючага бэзу
І тваёй усмешкі.
Калі мне сумна,
Я ўспамінаю той вечар.

* * *

З якой любоўю і ласкай
Яна развешвала бялізну!
Каптанчык дачкі
Прыцiснула да вуснаў
І пацалавала.
Такую хіба разлюбіш?

* * *

Павесці карабель жыцця між рыфаў…
Ударыць моцна хваля – быць бядзе.

*Святліца*

Паэт не той, хто піша нешта ў рыфму,
А той, хто адчувае боль людзей.

* * *

Хворыя ногі адпачываюць,
Калі чалавек ляжыць на канапе.
Хворыя заплюшчаныя вочы
Адпачываюць у цемры.
Хворыя вушы затыкаюць ватаю,
І яны адпачываюць у цішы.
І толькі хворае сэрца
Не адпачывае:
Яму заўсёды трэба
Працаваць.

* * *

Выпрабоўваюць подласцю.
З цынічнай цікаўнасцю чакаюць:
Заплачу ці не...
Дарэмнае чаканне!
Усе слёзы я выплакаў
У сірочым дзяцінстве...

* * *

Ненавіснік можа знішчыць

Цябе фізічна,
Але яму не забіць
Твайго сумлення.
Гэта асабісты выбар чалавека.

* * *

Здымаюць ланцугі,
У якіх я правёў усё жыццё.
Разгублена ніякавею:
Як гэта я буду без ланцугоў?..
Да іх ужо настолькі прызвычаіўся,
Што ўважаю сваёй уласнасцю.
І раптам – аддаць.
Неяк і шкада...

* * *

Ёсць людзі, якія
Навучыліся самі сабе
Рабіць аперацыю:
Скальпелем эгаізму
Выдаляць сумленне.
І задаволеныя,
Што забілі ў сабе чалавека...

* * *

Помнікі,
помнікі,
помнікі –
З бетону,
мармуру,
граніту.
Без памяці сэрца –
яны камяні.

* * *

За год да чарнобыльскай трагедыі
На вайсковай машыне
Прывезлі ацынкаваную дамавіну...
З таго часу ў Маці –
Жалобнае адзенне
І смутак у вачах...
Ратуючыся ад радыяцыі,
Усе даўно пакінулі вёску...
І толькі Маці засталася:
Не можа здрадзіць сыну.

* * *

Некаторыя кнігі і помнікі

З цягам часу састарэлі...
Хлеб вырошчвалі
Тысячы гадоў назад,
А ён і сёння “малады”.

* * *

Б’е, б’е жыццё бязлітасна і часта,
А вам здаецца – мне цудоўна жыць.
Пішу я вершы. Кажуць, гэта – шчасце,
А я распяты лёсам на крыжы.

* * *

Я зноў прысніў апошні свой пагорак.
Абрыдла і агоркла ўсё на свеце...
Вяду я з вершамі самотную гаворку:
Яны таксама родныя мне дзеці.

* * *

Калі чалавек памірае,
На матчынай мове
Развітваецца з роднай зямелькай,
Гаворыць ёй “дзякуй”
Нават, калі цяжка жылося,
Бо яна ў гэтым не вінаватая.
Жыццё пякельным робяць людзі.

* * *

Я ўжо стары:
Хутка на тым свеце
Сустрэнуся з табою, мама…
Ці пазнаеш такога?
Ты ж пакінула мяне
Двухгадовым хлопчыкам.

* * *

Хочуць мяне забіць…
Прашу ў Бога,
Каб дзень стаў ноччу –
Схаваюся ў цемры…

* * *

Калі б усе дрэвы,
Пасаджаныя маімі рукамі,
Усе добрыя справы,
Зробленыя мною для людзей,
Усе тыя вершы,
У якіх б’ецца маё сэрца,
Сталі на шляху маёй смерці,
Яна б не змагла перакрэсліць жыццё.

* * *

Зямля – найраднейшая:
Яна корміць і апранае,
Спявае свае песні,
А калі памру,–
Забярэ да сябе назаўсёды…

* * *

П’юць неба птахі-жаўрукі,
Ім – як рукой падаць да раю.
Мы славім неба на вякі,
А на зямлі жывем і паміраем.



***Іван Трысцень***

**Паланэз**

Міхал-Клеафас пакідае Радзіму.
Вялікае Княства, гаротны твой лёс.
Паўстанне разбіта. Скрозь чорна ад дыму.
Застылі ўжо вочы, ад смутку і слёз.

Аддаўшы усё на алтар перамогі,
Нясіце свой крыж – зноў адкладзены фэст.
Ён коней спыняе, сыходзіць з дарогі,
Каб сэрца паслухаць… гучыць Паланэз.

Вялікага сэрца чароўныя гукі…
Маэстра пачуў і слязой напісаў
Ён гімн беларусаў. У нашыя рукі,
У рукі нашчадкаў, як хлеб перадаў.

## Наш Сцяг

*Беларусь – у гэтым слове колер яго.*
*Нашы справы – гонар яго.*
*Чысціня – прыгажосць яго.*

Па белым, па снезе – палоска крыві,
А можа, пялёсткі хто ружы раскідаў?
Прыгожы, як кветка, і вечна жывы
Сцяг Крыўскі, Вітоўтаў, Давыдаў.
Ён сведка далёкіх і значных падзей
У водблісках вогненнай, рыцарскай славы –
Надзея для многіх мільёнаў людзей,
Апора і сімвал дзяржавы.

Булатам звінела, курэла зямля,
Чужынцы ішлі, і баі не сціхалі.
Мелодыю бітвы ў руках Каваля
Ліцвінам мячы заспявалі.
“Са сцягам сваім неўміручыя мы!” –
Казалі яны перад боем –
“Загіне хто з нас – шлях да Раю прамы,
А вернецца – будзе героем!”
Імклівай Пагоні не сцішыцца бег.
Наш Сцяг у стагоддзях лунае.
Прыродай штогод ачышчаецца снег,
А колеру кроў не мяняе.

*Святліца*

## Лёс народу

Жыццё ламае, ставіць на калені,
То топча ў гразь, то ўзносіць да нябёс,
І рвецца нітка – сувязь пакаленняў.
То гора нам, то шчасце – гэткі лёс.
Каму наканавана быць героем,
Каму людзьмі, дзяржавай кіраваць,
Ці піць віно, гарэлку піць запоем,
Ці сеяць хлеб і камяні збіраць.
Адметны кожны рух і не падобны,
Бо хто як можа, па жыцці ідзе.
Ды толькі з нашых крокаў шлях народны
Збіраецца і праз вякі вядзе.
Глядзяць на нас святыя душы продкаў
З нябёс высокіх. Мабыць, сумна ім?
Згубілі іх мы ў памяці кароткай.
Хто ўспомніць нас, калі і мы згарым?
Бег па жыцці у пошуках удачы,
Усё сабе, нічога для другіх…
Падумайце, браткі, як жыць іначай,
Падумайце аб душах аб сваіх…

## Родны дом

Прайшоў у жыцці я нямала дарог,
Праехаў машынай, чыгункаю хуткай,

Вось толькі нідзе затрымацца не змог –
Дамоў захацеў завітаць хоць на суткі.
Умомант сабраўшы свой скарб небагаты,
На грошы і справы махнуўшы рукой,
З палону маркоты, да роднае хаты,
Да матчынай ласкі лячу я стралой.
На захадзе сонца раскідала краскі,
І вечар паволі ахутаў зямлю,
Я з сумкай дарожнай па вуліцы гразкай
Спяшаюся ўбачыць матулю сваю.
Вось домік стаіць пад бярозаю белай,
Расцвіўшы вазонамі ў кожным вакне,
Над комінам дым уздымаецца шэры –
Тут бацька і маці чакаюць мяне.
Як вы пастарэлі ад суму чакання,
Ад болю і ласкі да родных дзяцей,
Якім даспадобы па свеце блуканне,
Жыццё між чужых незнаёмых людзей.
Так хораша ўсё, так прыемна мне ўдома:
Гарэлкі кілішак, сялянскі пірог,
Размовы пра даўніх і новых знаёмых,
Вяртлявая Аза пад лаўкай ля ног.
Да позняе ночы вяліся размовы:
“Чаму не жаніўся? Чакаеш чаго?..”
Гаючым бальзамам матуліны словы
Былі для разбітага сэрца майго.
Што мог ёй сказаць пра свой лёс небагаты?
Што п’яніца я, хіба можна сказаць?

Не любяць мяне маладыя дзяўчаты
І, быццам на злодзея, скоса глядзяць.
Вось спаць разышліся, пагасла святло,
І Месячык ясны ў вакно зазірнуў.
Цяпер не паправіш таго, што было.
Я ўсё перадумаў, пакуль не заснуў.
Прачнуўся ў нядзелю – званочкам вясёлым
Патэльня на кухні аб прыпек звініць.
Дзяцінствам павеяла мілым, знаёмым,
Якое ніколі ў жыцці не забыць.
Дык шчырае дзякуй вам, бацька і маці,
За тое, што вы нарадзілі мяне,
Што радасць і шчасце жыве ў нашай хаце,
Квітнеюць вазонамі ў кожным акне.

**Лета**

Лета ў лузе. Сонца грэе,
Песціць промнямі зямлю.
Цёплы ветрык шэпча-вее
Кветкам песеньку сваю.
Пасля моцнай навальніцы
Ў лужах чыстых, як сляза,
Мыюць ногі маладзіцы
З гнуткім станам, як лаза.
Сцелюць белыя палотны,
Намачыўшы у вадзе.

Спеў птушыны бесклапотны
У сунічны лес вядзе.
“Апалонікаў” пузатых
Ловяць майкай хлапчукі.
Маці кліча іх дахаты,
Ды не чуюць “рыбакі”.
Парай цёплаю, малочнай
Зранку дыхае зямля,
І нясе цяпло ад ночы
Да квітнеючага дня.
Ці было калі такое,
Можа сон прысніўся мне?
З Сонцам, Радасцю, Спакоем,
З гімнам лету і вясне.



**Дзмітрый Тукай**

Вясновыя замалёўкі

Зямля аж дыхае ў руцэ,
Бы мякіш хлеба.
Вясна блакіт бярэ ў рацэ,
Фарбуе неба.

Па беласнежных прасцінах
Прайшоўся пэнзаль –
Вясна выводзіць на палях
Свой першы вензель.

А потым пройдзе па раллі
З квачом зялёным,
Наўмысна пырскне па галлі
Бярозам, клёнам…

І красавік, нібы знарок,
Падхопіць ветрам.
Мы будзем піць з бярозаў сок
І піць паветра.

Нам зноў да ранку не заснуць
У цудзе ночы,
Як толькі ў сэрцы зазірнуць
Пралесак вочы.

* * *

Безгалосы паэт за сталом
дэкламуе свой верш,
А мастак паўсляпы зноў навобмацак
піша карціну…
Хто стварыў гэты цуд за прыроду
магутную лепш,
Узбудзіў і натхніў? – Пах вясны,
сакавік і Жанчына.

**Узлёт**

Я п’ю каханне, ды пітво
Пячэ мне губы,
Нясе ў нябёсаў хараство
Ці ў бездань згубы?

На крылах – сонца прамяні,
Як у Ікара.
Няўжо і мне з той вышыні –
Аб землю тварам?

Знік пада мною спакваля
Крумкач панылы.
Лячу вышэй. – Бывай, зямля!
Трымайце, крылы!..

**Чорны вэлюм**

Ззяе ў пацерках-ліхтарах

Час вячэрні.
Свtтлſмузыка вокнаў. Гмах
Шматкватэрны.

І святло, быццам мёд, цячэ
З вокнаў-сотаў…
А ў маіх – чорны вэлюм тчэ
Адзінота.

**Радаўніца**

*Светлай памяці дзеда Антона*
*і бабулі Марыі прысвячаю.*

Ціхай вёсачкі хаткі старыя
Нешта зноў часта бачацца ў сне.
Дзед Антон і бабулька Марыя
Усміхаюцца ветліва мне.

Шлях не блізкі, ды дзень не кароткі –
Часу хопіць – аб чым меркаваць.
Разам з вамі, шаноўныя продкі,
Будзем Радаўніцу сустракаць.

Мне не трэба шукаць праважатых –
Наваколлем не буду блукаць:
Грушу-дзічку ля дзедавай хаты
Нават ноччу я б змог адшукаць.

За сялом невялічкі пагорак
Зелянее ад майскіх дажджоў,
Не аздобіўся чырванню зорак

У журбоце магільных крыжоў…

Як плашчом, ахінуўшыся смуткам,
Гладжу шэры граніт камянёў,
Бы вярба, што галінкаю гнуткай
Прагна цягнецца да каранёў.

Лёс няўмольны, і вось ужо мушу
Ставіць свечку над вашым жытлом,
Каб сагрэліся родныя душы
Яе чыстым дрыготкім цяплом.

Вам з пагорку відаць свая хата
І вясновай раллі аксаміт,
Вам чуваць, як боль даўняе страты
Разам з кветкамі лёг на граніт.

Новых Войкавіч хаткі старыя
Паўстаюць, быццам прывіды ў сне…
Дзед Антон і бабулька Марыя
Не сустрэнуць на ганку мяне.

**Дзедава хата**

Дрэмле хатка. Сляпыя акенцы.
Не курыцца праз комін дымок…
Аж вішчыць, не пускаючы ў сенцы,
Яшчэ дзедаў іржавы замок.

Я заходзіць патрэбы не маю,
Уяўляючы кожную рэч:
Паўпакою па-царску займае

Дужай постаццю руская печ.

Фатаздымкі у рамках драўляных,
Павуцень, нібы след маразоў,
У куточку ручнік саматканы
Абхапіў даўніну абразоў…

Змоўк гадзіннік, прыпынены смерцю:
Стрэлкі ўшыркі – нібы дзве рукі.
Тры гадзіны застылі без чвэрці,
Сцяўшы шэсцерні, бы кулакі.

Хатні скарб хоць стары, ды трывалы:
Просты стол, што стаіць мо з вайны?..
Не да мяккіх фатэляў – дзед лаву
Змайстраваў з векавечнай сасны.

Габляваў, цешыў сэрца надзеяй,
Што ўся праца ў жыцці нездарма…
Плача дождж, і скуголіць завея –
Лава ёсць… А вось дзеда няма.

Апякае душу, нібы джалам,
Цішыня нежылога жытла.
Пах яечні са смажаным салам
Не склікае цяпер да стала.

Пасівелі ад часу і пылу
Звонку шыбы – маркотны іх лёс…
Дрэмле хатка. Куточак маўклівы,
Быццам стомлены шэптам бяроз.

**Вёска дзяцінства**

Успаміны, скранутыя часам,
Зноў на вёску вярнулі мяне,
Дзе герань побач з кволым альвасам
Расквітнела на кожным акне.

Там вяргіні цікуюць у шыбы,
Велізарная ліпа шуміць,
Там у Белым Лужку кошык рыбы
Простай вудаю можна злавіць.

Стрэхі хат дастаюць аж да зорак,
Пяць капеек каштуе кіно,
І ўтыкаецца дзедаў сцізорык
У адхоны старых курганоў…

Я вярнуўся. А Божа мой мілы!..
Дзе ж той пыл, што курэў каля хат?
Расхінуў крумкачовыя крылы
Ўздоўж па вёсцы навюткі асфальт.

Не пазнаў я куток сэрцу любы
У шнарах асушальных равоў,
Ушчэнт загрызлі сталёвыя зубы
Моц спрадвечную тых курганоў…

Хаткі жмураць старыя акенцы,
Углядаюцца – не пазнаюць,
А дзяцінства маленькія дрэўцы
Сёння неба лістотай мятуць.

Плынь асфальту імчыць да гасцінцу

*Святліца*

Між платоў, як паміж берагоў…
Дрэмле вёсачка. Вёска дзяцінства,
Ды, вядома, ужо не майго.

## Сымонава праўда

Калісьці меў дзядок Сымон
Рублёў мо тысяч з пяць.
Але ж занадта доўга ён
Збіраўся паміраць.
Ашчаднай касе давяраў
Запас на чорны дзень,
Які за шмат гадоў сабраў
На сціплы працадзень.
Не панаваў, не шыкаваў,
Капеечкі лічыў,–
У шэрай кніжачцы ляжаў
Спакой яго душы.
Сымон усё абмеркаваў,
Звяртаўся да мяне,
У чым хаваць распавядаў
І у якой труне.
Ды вось, на жаль, не ўчуў стары,
Як вецер перамен
Ягоны скарб ператварыў
У просты стос папер.
Дэнамінацыя, як звер,
Даела – хоць ты плач!
За тыя грошыкі цяпер
Не купіш і дзяркач…
Камяк абразы дзед Сымон

Рашуча праглынуў:
– Пражыў я семдзесят гадоў –
Шчэ трыццаць працягну.
Тытунь ёсць, бульба, агуркі,
Ёсць што абуць, адзець,
Сахор не валіцца з рукі –
Навошта ж тая смерць?
Яшчэ з хвілінку памаўчаў
І быццам прысудзіў:
– Хай у магілу ляжа той,
Хто гэтак нарабіў.

**Пра гарэлку**

Шклянку з ранку – і тады
Ні інфляцыі, ні цэнаў.
Аніякае бяды –
Пераб‘е ўсё водар “белай”.

Падаражэўшы ў шмат разоў,
З гандлёваю нацэнкай,
Але пакуль танней харчоў,
Той “смак” у паўлітэрках.

Няўжо з нас зроблена знарок
Пасмешышча такое?
Бо лепей з чаркай мужычок,
Чым мужычок са зброяй.

Хлябчы, народ, маўчы, народ!
А што рабіць ты мусіш?
Калі дзе чарку і кульнеш,
Дык “чёрта с два” закусіш!

*Святліца*

**Сынам**

Сівы пыл жыццёвых шляхоў
Беліць скроні, бы глебу снежань,
Ды ўжо постаці двух сыноў
Сталі побач, як моцныя вежы.

Адграбаю свае гады
Ад сябе, нібы попел куры…
Я ж зусім яшчэ малады
Пад скамечанай часам скурай!

Я ж, здаецца, яшчэ не жыў,
Дні накручваў, бы на матавілы…
Як далёка яшчэ да мяжы,
А ўжо моладзь спрабуе крылы.

Яшчэ колькі гадкоў міне,
Даючы, бы цвіку па плешчы,
Ды ўжо дзеці зменяць мяне
У хадзе па жыццёвай сцежцы.

Ля дзяўчат прайшлі хлапчукі –
Нібы дзень расквітнеў панылы:
Вейкаў лёгкія матылькі
Узнялі дрыготкія крылы.

Пад сузор‘ем такіх вачэй
Мне маркотна так стала штосьці…
Мо зайздрошчу сынам?.. Хутчэй
Я віншую іх з маладосцю.



**Якаў Шутовіч**

**З п'яну, здуру пра казюрак**

Той, хто ў віне не бачыць шкоды
У ачмурэнні забыцця,
Не ўцяміць цераз асалоду
Трагікамедыю жыцця.

Адну такую, скажам, з'яву
Мне давялося назіраць.
Пайшоў я ў лес адпачываць,
Паклаўшы ў торбу розных страваў.
Да іх бутэлечку віна.
І, выпіўшы яго да дна,
Схаваў пасудзіну ў кустах.
Прынадны, незвычайны пах
Палянку ўмомант ахапіў.
Мурашкі, дробныя казюркі
Забыліся на гульні ў жмуркі –
Іх гэтак водар паланіў.
Адны бутэльку абляпілі,
Другія скокнулі на дно,
Дзе засталося ў кропельках віно,
І карагоды там вадзілі.
Не болей як праз паўгадзіны
Галоўкі там яны злажылі…

*Святліца*

Я ў тым відовішчы, нажаль,
Не ўбачыў трапную мараль.
Бо гэтак я напіўся,
Што на сябе забыўся.

**Непрадбачлівы Воўк**

Чарга стаяла за віном –
Звычайная для крамы з’ява.
Як хто купіў – быў малайцом,
А хто не ўзяў – разява.
Тут Заяц без чаргі пралез
І просіць прабачэння:
– Даруйце: трэба пазарэз!
Пачуў праклёны, кпіны ды сіпенне.
– Куды ты лезеш? – крыкнуў Воўк.
А з пашчы шумавінне льецца. –
Як грызяну цябе за бок –
Адно куртаты хвосцік застанецца.
І бедны Заяц, затрымцеўшы ўвесь,
Пайшоў, не страціўшы сумлення.
А тут з’яўляецца Мядзведзь.
Без сарамлівых прабачэнняў
Штурхнуў таго, хто спераду стаяў,
Паглядам строгім прыпыніў размовы…
А як жа Воўк, няўжо маўчаў?
Так, так. Не вымавіў ні слова!

Навогул, трэба не баяцца
Аб чым крычаць і з кім спрачацца.
Але прадбачыць трэба ўмець,
Што пасля “зайца” з’явіцца “мядзведзь”.

**Пра Суку і навуку**

Прапхнуў Сабака у навуку
Суку,
Бо ён займаў высокае у трэсце
Месца,
Падтрымку меў праз тую Суку
Ў друку
І мог любога на працоўным месцы
З'есці.
Было ў яго, бы у дварнягі вошай,
Грошай,
З ім быў любы сабака беспародны
Згодны.
Гайню прыхільнікаў бульдожых
Множыў,
Начальству быў неверагодна
Годны.
Дык вось, прапхнуўшы у навуку
Суку,
Яго сумленне хвалявала
Мала.
Навуку лічачы дакукай,
Сука,
Дыплом, хоць ведаў мала,
Атрымала.
Трываем мы праз тыя штукі
Мукі:
Балюча нам кусаюць рукі
Сукі.

*Святліца*

**Сукіны сыны**

На выстаўцы сабачай
Бульдога Дог убачыў.
І кажа: “Прывітанне, брат!
Сустрэчы нашай вельмі рад!”
Зірнуў Бульдог на Дога:
З маленства ён не чуў падобнага нічога.
Другія думкай да яго не маюць права дакранацца,
А гэны, бач, задумаў пабратацца!..
І наляцеў Бульдог на Дога.
Разумны адышоў бы ад дурнога,
Але ў таго й другога –
Сабачай сілы многа!
Я не скажу, хто перамог –
Бульдог ці Дог,–
Усім вядома, што яны
Абодва – сукіны сыны!

**Ахвяра выхавання**

Так здарылася, што маламу ваўчанятку
Жыць давялося у авечым статку.
Не памятаў ні бацькі ён, ні маці,
Быў братам кожнаму ягняці.
Рос кемлівым, старанным, паслухмяным
І нават, мо, занадта ўжо рахманым.
Калі, бывала, збоку нехта гляне,
Пахвальна скажа: “Вось дык выхаванне!”
Пажыўшы доўга ў статку тым, канечне ж,
Змяніўся ён і ўнутрана, і знешне:
Драпежніцкія іклы ўшчэнт звяліся,
А кіпцюры – у капыткі зрасліся.

І сам ваўчок таго не заўважаў,
Што ўжо не выў, а, як баран, бляяў.
І жыў бы так далей, нябога,
Каб не пачуў ад злых сабак дурнога.
Збрахнуў яму Сабака за хляўком,
Што ён народжаны Ваўком.
– У лес бяжы, там ёсць твае браты –
Такія ж самыя, як ты.
Відаць, Ваўку ад бараноў і розум даўся,
Бо не задумаўся – адразу ў лес падаўся.
На зграю суплямennікаў наскочыў –
На тым кароткі шлях жыццёвы скончыў…

Не ведаю, скажу вам без маны,
Хто лепшыя – ваўкі ці бараны,–
Ды мушу выказаць спагаду-спачуванне
Ахвярам вось такога выхавання.